

Цяпер, братцы, мы з граніту,
Душа наша з дынаміту,
Рука цвёрда, грудзь акута,
Пара, братцы, парваць пута!

Цётка.

БЕЛАРУСКІ
СЬВЕТ
BYELORUSSIAN
WORLD

NO. 9(38) - 1981

# БЕЛАРУСАЧКА

Словы А. СТАВЕРА

Музыка А. ХЛІМАНОВІЧА






Я гляджу на тваe кучмы русыя,
Не магу наглядзецца ніяк.
Беларусачка, беларусачка,
Дарагая сяброўка мая.

Хутка зноў я з табою расстануся,
Хутка зноў застануся адзін.
Беларусачка, беларусачка,
Ты са мной развітацца прыйдзі.

У краях незнаёмых, нязведаных
Буду ў радасці я ці ў журбе.
Беларусачка, беларусачка,
Не забуду ніколі цябе.

Я вярнуся к табе, сінявокая,
Калі ў зелень апранецца май.
Беларусачка, беларусачка,
Ты хоць зрэдку мяне ўспамінай.

Я гляджу на тваe кучмы русыя,
Не магу наглядзецца ніяк.
Беларусачка, беларусачка,
Дарагая сяброўка мая.





# ЦЁТКА

## З ЧУЖЫНЫ

І душна, і цесна, і сэрца самлела
Мне тут на чужыне, здалёк ад сваіх...
Як птушка на скрыдлах, ляцець бы хацела,
Як хваля па моры, плыла бы да іх!

Ўзнялася б, здаецца, расінкай на хмары,
А хмары бы ветрам сказала я гнаць
Далёка, далёка, дзе сняцца мне чары,
Дзе боры густыя над Нёмнам шумяць;

Дзе пацеркай белай Вілля прабягае,
Дзе Вільня між гораў гняздо сабе ўе,
Дзе кожна дарога і крыж мяне знае,
Дзе ўсё, усё чыста вярнуцца заве!

Там я нарадзілась і вырасла ўволю,
Там першыя словы вучылась казаць.
Затое сягоння ляцела б стралою
Там з імі з усімі Год Новы спаткаць!

Ой, мілыя, мілыя, снегам пакрыты
Загоны, лясочкі, дарожкі мае!
Эх, як вы у сэрцы маім не забыты,
Як часта абраз ваш у думцы ўстае!

А вы, бледны твары, панураны ў працы,
І ты, друг мой, смутак з іх слёзных вачэй,
Прыміце сягоння прывет мой гарачы,
Каб жыць нам было ў гэтым годзе лягчэй!

*1909*

## ГРАЙКА

Граў бы я многа, ды сіл не хватае,
І рвецца за стрункаю струнка,
Хоць песня яшчэ не замёрла ўдалая,
Хоць родзіцца думка за думкай.

Граў бы я многа, ды смерць кажа «годзе!»,
Ў магілку мне ладзіцца кажа...
Эй, рвіцеся, струны, што гэта мне шкодзе?
Ў магілку супольна мы ляжам!

Можа, з той ліры вырасце іва,
З парваных струн — белыя кветкі;
Можа, вясною будуць ігрыва
У дрэўца ценю гуляць дзеткі;

Можа, хто з дзетак скруце жалейку —
Унучку паломанай ліры,
І так зайграе, што ўсенька зямелька
Пачуе мой водгалас шчыры!

Дзедавы струны, рана парваныя,
Зноў громка азвуцца, як звоны:
Песня, за жыцце яго недаграная,
Ў сэрцы унука дасць плёны.

А на задушкі пад цёмнаю івай
Жывое пачуецца слова,
Што песня ўстала з стотысячнай сілай,
Жыве мая ліра нанова!

*1909*



# ЦЁТКА — АЛЁЙЗА ПАШКЕВІЧАНКА

(1876 - 1916)

Алёйза Пашкевічанка нарадзілася 3-га ліпеня 1876 году ў вёсцы Пяшчына, Лідзкага павету. Бацькі будучай пясьняркі былі з дробнай шляхты, мелі кавалак зямлі ў ваколіцы Пяшчына. Сям'я аднак была небагатая, дзяцей шмат. Алёйзу трохгадовым дзіцянём аддалі гадаваць дзядом Пашкевічам, якія жылі ў фальварку Тарэсін, у пяці мілях ад зямлі бацькоў. Тут у вясковай цішы, сярод густых лясоў, і расла Алёйза. Яе абкружалі ласкаю і ўвагаю старыя кабеты: бабка ды нянька. Бабка была добрая, лагодная і — як на тыя часы — даволі інтэлігэнтная асоба. Вучыла ўнучку ручным работам, да якіх Алёйза, аднак, ня мела замілаваньня, — яна больш цягнулася да навукі. Тут у бабкі яна навучылася чытаць і пісаць па-польску. Беларускасьць пераняла ад старой нянькі Ягасі, якая праз казкі, апавяданьні прышчапіла ёй замілаваньне да родных абразоў, да роднага краю. Такім чынам, дзіцячыя гады Цёткі былі поўныя ўражаньняў вясковай прыроды, вобразаў народнай фантастыкі, абвеяныя лагоднай увагаю й пяшчотнасьцю бабкі й нянькі. Гэта не магло бязь сьледу прайсьці праз душу ўражлівай дзяўчынкі. І няраз потым гэтыя родныя вобразы ўсплывалі й адлюстроўваліся ў паэзіі паэткі.

Цётцы было дзевяць гадоў, калі памерла бабка, і ўзгадаваньнем яе заняліся бацькі. Пачалася падрыхтоўка "да клясаў". Шмат розных, часта зусім прыпадковых, настаўнікаў — "вучыцеляў" мела Алёйза, і ўсе яны адзначылі нязвычайныя ейныя здольнасьці й ахвоту да навукі.

У 1892 годзе яна ўжо ў Вільні, рыхтуецца да паступлення ў гімназію, а ў 1894 годзе была залічаная ў 4-ю клясу прыватнай жаночай гімназіі Празоравай. Гімназію, са шматлікімі перарывамі з прычыны кволага здароўя, скончыла аж у 1901 годзе, маючы ўжо 25 гадоў. У гады, калі ня вучылася, настаўнічала на вёсцы. Тут яна бліжэй сутыкнулася зь беларускім сялянствам і пазнала праблемы й патрэбы народу. Пэдагагічная праца, відаць, цікавіла й задавальняла Алёйзу. Каб паглыбіць сваю асьвету, яна ў 1902 годзе едзе ў Пецярбург для паступлення на вышэйшыя адукацыйныя курсы Лесгафта.

З гэтага часу адчыняецца новая старонка ў жыцьці Алёйзы Пашкевічанкі - Цёткі. Ейная дзейнасьць накіроўваецца на рэвалюцыйна - грамадзкі шлях, і яна аддана й шчыра захапляецца гэтай дзейнасьцю. На гэты час канчаткова аформілася й выкрышталізавалася яе нацыянальная сьведамасьць. Вялікую ролю ў гэтым адыгралі творы Францішка Багушэвіча, на якіх яна вучылася, зь якімі перакл.калася ў сваіх вершах; нават псэўданімы Цёткі (Мацей Крапіўка, Гаўрыла з Полацка, Бандысь Асака ды інш.) былі як-бы падражаньнем Багушэвічавым.

У 1904 - 5 гадох — зноў у Вільні. Тут Цётка аддае ўсю сваю энэргію для працы з рабочымі, моладзьдзю, сярод жанчын. У гэты-ж час пашыраецца й літаратурная дзейнасьць Цёткі, — яна прымае актыўны ўдзел у першай беларускай газэце “Наша Доля”. У 1905 годзе ёй даводзіцца жыць на “нелягальным” становішчы, хавацца ад паліцыі ў Нова - Вілейску, дзе яна працуе, як сястра міласэрдзя. Аднак і тут становішча яе было няпэўным, і ў 1906 годзе Цётка ўцякае за мяжу.

Пачынаецца жыцьцё на эміграцыі (1906 - 1910 гады): спачатку Львоў, пазьней Закапанае й Кракаў. Тут яна вучыцца, паранейшаму жыве грамадзкімі інтарэсамі, робіць, што можа, для справы беларускага нацыянальнага адраджэньня. У 1906 годзе ў Жоўкве, каля Львова, выдае зборнікі вершаў “Хрэст на свабоду” і “Скрыпка Беларуская”, падручнік - чытанку “Гасьцінец для малых дзяцей”. Таксама “Першае чытаньне для дзетак беларусаў” было выдадзенае ў 1906 годзе ў Пецярбурзе. Зноў падкошваецца ейнае здароўе, — адкрыліся сухоты; і Цётка едзе ў Закапанае галоўным чынам з мэтай лячэньня.

Гэткі канфлікт паміж нядужым целам і ўпартым імкненьнем да працы цягнецца бадай праз усё жыцьцё. Канфлікт гэты адбіўся й на характары творчасьці Цёткі. Бадзёры, рэвалюцыйны настрой чаргуецца з смуткам — горкім і сьведамым прадчуваньнем сьмерці.

У 1908 - 9 гадох Цётка асядае ў Кракаве, дзе залічаецца на гісторыка -філёлягічны факультэт Ягелонскага Унівэрсытэту. Зрэдку яна дасылае вершы й апавяданьні ў “Нашу Ніву” ў Вільню. 1909 год яна вітае вершам “З чужыны”, — вершам, поўным засмучэньня па родным краю й імкненьня да яго.

У пачатку 1910 году пад чужым імём Цётка перабіраецца праз граніцу ў Вільню і зноў распачынае актыўную грамадзкую працу. Тут яна прыймае чынны ўдзел ва ўтварэньні беларускага тэатру Буйніцкага. Цётка з запалам аддаецца тэатральнай працы, сама выступае на сцэне; тым больш, што некаторую падрыхтоўку яна атрымала будучы на эміграцыі, дзе практычна вывучала драматычнае мастацтва ў тэатральнай школе. Між іншага, паводля ўспамінаў тагачасьнікаў, і вершы свае дэклямавала Цётка з мастацкай тэхнікай.

У 1911 годзе Цётка выходзіць замуж за Сьцяпана Кейрыса, сьведамага жамойцкага дзеяча. Маючы другое прозьвішча, яна магла спакойна аддавацца сваёй літаратурна - грамадзкай працы. Беларуская інтэлігэнцыя розных кірункаў гуртуецца ў той час каля “Нашае Нівы”. Нацыянальны рух пашыраецца. Гэты пэрыяд жыцьця Цёткі адзначаецца плённасьцю. Акрамя вершаў, піша яна й кароткія апавяданьні, артыкулы на грамадзкія тэмы, нарысы ды інш.

У 1914 годзе ў Менску рэдагуе першы беларускі часапіс для дзяцей “Лучынка”. Працаваць даводзілася ў цяжкіх умовах. Здароўе Цёткі зноў горшае, і ўвесну 1914 году яна едзе ў Фінляндыю лячыцца. Улетку пехатой вандруе па Швэцыі, Нарвэгіі. Нарыс “Успаміны з паездкі ў Фінляндзыю” зьявіўся вынікам гэтага падарожжа

Цёткі ў Скандынавію.

Пад час вайны працуе, як сястра міласэрдзя на фронце, потым у Вільні ў тыфусовым бараку. Няма, здавалася, канца яе энэргіі й ахвярнасьці.

У студзені 1916 году Цётка атрымлівае паведамленьне аб сьмерці бацькі і едзе на пахаваньне яго ў Стары Двор на Лідчыне. Там яна заразілася й захварэла на тыфус. Арганізм, аслаблены ўжо хваробай, цяжкімі варункамі жыцьця й цераэьмернай працай, ня здолеў перамагчы новае хваробы, і ў ноч з 4-га на 5-га лютага Цётка памерла. Пахавалі яе ў Старым Двары на кургане, каля саду.

Так скончылася жыцьцё, — поўнае, плённае, цікавае жыцьцё першай беларускай паэткі, грамадзкага дзеяча, пэдагога — жанчыны - барацьбіткі.

З «Матар'ялаў да біографіі Цёткі» Ю. Бібіла апрацавала
Зора Кіпель.

***

**В. ПАНУЦЭВІЧ**

## ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ

(1840 - 1900)

працяг

У апошнія дні красавіка гэтага году памёр у Кушлянах Ашмянскага павету, незабыўны Францішак Багушэвіч, які пакінуў сьлед у сэрцах людзей, як бескарысьлівы адвакат, які дапамагаў беднаце за добрае слова, і як беларускі народны пісьменьнік, аўтар многіх каштоўных твораў, напісаных на аснове мясцовага сялянскага жыцьця.

Трынаццаць гадоў таму назад пісаў ён карэспандэнцыі зь Вільні ў часопіс «Край» пад псэўданімам «Дэмос» 1) Выдаў некалькі томаў сатырычных твораў пабеларуску, падпісаных «Бурачок». Да гэтай катэгорыі належаць: «Гавэнды», «Гутаркі», «Казкі» 2) «Дудка беларуская» (два выданьні), «Смык», «Скрыпачка» (з партрэтам аўтара) 3) «Траляленачка» і шмат іншых.

Нарадзіўся ён у 1840 годзе ў Сьвіранах, каля Вільні. Пасьля заканчэньня гімназіі ў Вільні ў 1861 годзе паступіў у Пецярбурскі ўнівэрсытэт на матэматычны факультэт, аднак праз год вярнуўся ў Доцішкі, Лідскага павету, дзе працаваў у галіне асьветы сялянства. Абставіны 4) змусілі яго паступіць у Нежынскі ліцэй на юрыдычны факультэт, пасьля сканчэньня якога ён некалькі год, у той самай губэрні, займаў пасаду судовага сьледчага. Пасьля знаходзіўся ў Валагодзкай губэрні, а потым у Чарнігаўскай. Пераехаўшы ў Вільню, ён перайшоў на адвакатуру, якая вялікага дастатку не дала, бо ён заўсёды на заклік сэрца быў на баку пакрыўджаных, што найчасьцей маглі аддзякаваць, толькі сардэчным словам. Але затое колькі людзей успамінае яго! За добрыя справы.

Пару год таму ён прастудзіўся, пачалася хвароба нырак, якая зьвяла яго ў магілу. Апошнія два гады ўвесь час хварэў, пакінуў адвакатуру, пераехаў у свае

Кушляны, дзе паволі згас, зьбіраючы з народных вуснаў паданьні, казкі, песьні.[5]

Пахаваны на парахвіяльных могілках у Жупранах. Сярод шматлікіх вянкоў, вылучаліся два: «Паэту й сябру ад сялян і рамесьнікаў», і пабеларуску: «Змоўклі песьні тыя, што іграў на «дудцы».

«Край», 1900, 2(15) чэрвеня, № 22. (Пераклад з польскага.)

**Дапіскі:**

[1]) Ф. Багушэвіч друкаваў свае матарыялы ў польскім часапісе «Край» у 1887-1891 гг.

[2]) Найболш верагодна, што Багушэвіча кнігі: «Гавэнды», «Гутаркі» і «Байкі» былі зьнішчаныя расейскай цэнзурай.

[3]) Зборнік вершаў Ф. Багушэвіча »Скрыпка беларуская» ня быў ніколі афіцыйна друкаваны, бо царская цэнзура яго сканфіскавала.

[4]) У нэкралёзе пасьмертным нельга было сказаць пра ўдзел Ф. Багушэвіча ў паўстаньні 1863 г.

[5]) На вялікі жаль, фальклёрныя матарыялы, якія зьбіраў паэта, не захаваліся.

## ДАКУМАНТЫ Й МАТАРЫЯЛЫ

1. ТЫТУС САПОДЗЬКА: «ДУДКА БЕЛАРУСКАЯ» Мацея Бурачка. Друкаваў сваім коштам Ул. Анчыц і С-ка, 1891.

Пад такой назвай у канцы мінулага году выйшаў невялікі паэтычны зборнік, напісаны на беларускай ці крывічанскай мове. Гэта нібы сумнае рэха скаргі, якая далятае з далёкага і амаль забытага літоўскага краю між Дзьвіною й Прыпяцьцю, лёс якога доўгі час быў зьвязаны з лёсам Польшчы. Палістаем старонкі простай той кніжачкі, можа яны што небудзь раскажуць нам новае, можа гукі беларускай жалейкі абудзяць у нашых сэрцах якіясь здаўна некранутыя струны.

Паэзія невядомага песьняра, які схаваўся за ня вельмі трапны псэўдонім, мае даволі сымпатычную прадмову, у якой аўтар імкнецца абгрунтаваць права на разьвіцьцё роднай мовы. Стыль, якім напісана прадмова, дазваляе меркаваць, што «Дудка» адрасавана шырокаму колу чытачоў. Знойдзем там некалькі важных і арыгінальных думак: «Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так як той чалавек перад скананьнем, катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!»...

Прадмова вельмі добра настройвае чытача да таго, пра што гаворыцца ў кнізе. Сярод твораў, зьмешчаных у зборніку, ёсьць добры верш «Мая дудка». Хоць ён своеасаблівы па сваёй форме, але зьместам і настроем напамінае некалькі твор Сыракомлі, які пачынаецца словамі:

Liro ty moja śpiewna
Z czarodziejskiego drzewna!..

Беларускі пясьняр кажа сваёй жалейцы, каб іграла спачатку вясёлыя, танцавальныя мэлёдыі, бачачы аднак, што яны нясугучныя з доляй народу, дык пераходзіць на жаласныя ды сумныя тоны... Наступны верш «Дурны мужык як варона» выказвае абурэньне, што селянін, які найбольш працуе і працай сваёй хоць мімавольна рухае цывілізацыю й прагрэс, аднак сам ня можа карыстацца гэтымі дабрадзействамі. Шмат у гэтым вершы праўды, але ёсьць тут многа жоўці ды едкай іроніі. Падобны да яго ў сэнсе зьместу, але больш дасканалы сваёй формай твор,

які называецца: « Бог няроўна дзеліць». Некаторыя яго мясьціны вызнаюцца сьвежасьцю й гумарам, хоць з-за таго гумару адчуваецца глыбокі боль за цяжкую сялянскую долю. Творы: «Як праўду шукаць», «У судзе», «У астрозе» — характарызуюцца дасьціпнымі й трапнымі эпізодамі, празь якія паказаны ўзаемаадносіны сялян з царскімі ўладамі. Хто ведае мясцовае жыцьцё, той згодзіцца, што тыпы царскіх чыноўнікаў паказаны з сапраўдным талентам ды псыхалягічнай глыбінёй. Найлепшым у гэтым сэнсе зьяўляецца верш «Хрэсьбіны Мацюка»...

Творы «Кепска будзе», «З кірмашу», «Думка», «Мая хата» адкрываюць перад вачыма, як у калейдаскопе, розныя малюнкі вясковага жыцьця. Галоўная іх вартасьць заключаецца ў дасканалай перадачы мясцовага калярыту... Ёсьць у Мацея Бурачка некалькі баяк. Адны зь іх, як, напрыклад, «Хцівец і скарб на Сьвятога Яна», «Дзе чорт ня можа, там бабу пашле», «Здарэньне», пабудованы на мясцовых паданьнях і прымаўках; іншыя, як «Падарожныя жыды», «Быў у чысцы» накіраваны сваім астрыём супраць розных цяжараў селяніна...

Найвышэй, аднак, з поглядаў маральных стаіць верш «Праўда»... Спачатку гучыць тая самая нота, што ў іншых творах: скарга на сялянскую долю. Аднак роспачы тут няма. Твор свой паэта канчае словамі:

Ды пашлі-ж Ты Божа, Праўду сваю тую
Зь неба на зямельку, сьлязьмі залітую!..

Вось у кароткім аглядзе зьмест «Дудкі беларускай». Што датычыць формы, то ў некаторых творах, пераважна сатырычных, радок гучыць гладка, роўна, хоць часам ён бывае шурпаватым... Многа сустракаецца палянізмаў і русіцызмаў...

Саподзька Тытус,
«Пшэглёнд Повшэхны», 1892.

(Саподзька Тытус, родам зь Беларусі.)

2. «ТРАЛЯЛЁНАЧКА», Друкаваў сваім коштам Ул. Анчыц і Ска, 1892. Выданьне ананімнае. Што гэта быў твор Багушэвіча відаць з рахункаў кракаўскай друкарні, а таксама матарыялаў, якія зьявіліся ў польскім друку пасьля сьмерці Ф. Багушэвіча. «Край», 1892 г.

Гэта невялікая брашурка б. 11, пісаная стылем Ф. Багушэвіча. Апавядае яна аб тым, як Бартак Саска разбагацеў зь ліхвы ды абдзіраньня жыхароў свае вёскі. Падняўся да таго, што купіў «генеральскі маёнтак». Бартчыха пачала хадзіць «у чорнай панскай сукні» і «ў капелюху з тоўстай істужкай», а ў садзе «спацыруе сабе з парасончыкам». Таго парасона ня выцярпеў Бартак, пасварыўся зь ёю ды разьвёўся... Але сумна было Бартку аднаму, таму прывёз з гораду паненачку, называў яе нейкай сваячкай ды цалаваў яе пры людзях. Дзяўчыну вёска назвала «Траляля», бо заўсёды сьпявала ды была вясёлая... Але ў хуткім часе яна памерла ды асталося яе дзіцятка «дробненькае». Бартак памёр у турме... Дзцятка Траляле (Тралялёначку) аддалі сяляне да мамкі, «зложыўшыся па дзесяць грошы», а пазьней «ксёндз літасьцівы» аддаў яе на навуку да арганіста. Цяпер прайшло ўжо зь дзесяць гадоў, а яна «такая вясёлая ды сьмяхотная, якраз-жа Тралялёначка». [1])

---

[1]) Аўтарам гэтай зацемкі быў нехта з супрацоўнікаў выдавецкай супалкі «Край» у Кракаве, якой кіраваў Ул. Анчыц і С-ка, 1892 г.

3. ДУДКА БЕЛАРУСКАЯ. Пад гэткім назовам вышаў нядаўна зборнік беларускіх вершаў М. Бурачка... Зьяўленьне гэтага зборнічка, нам здаецца, сьведчыць аб тым, што «пробудилось-таки, наконец, русское самознание у наших ополячившихся белорусов... Потеряв веру в сманившую их предков польскую культуру, они начали стремится к слиянию со своей старой родиной — Белой Русью и прежде всего стали говорить и писать на своем родном языке. Отрадное явление это не должно пройти незамеченным нами. Скажу более: в сознании своей силы мы должны помочь ему развиться, должны поддержать малосильных и колеблющися и дружески протянуть руку заблудшим братьям, снова стучащимся в двери крова родной матери Руси.

Названая брашура (Дудка беларуская), піша далей царскі афіцыял, зьмяшчае 19 бытавых, грамадзкіх ды гумарыстычных твораў. «Найменш удаліся аўтару, што й трэба было чакаць, вершы: «Хрэсьбіны Мацюка», «Дурны мужык, як варона», «У астрозе», «Мая дудка» й др.»

»Крупным недостатком сборника мы считаем допущенную автором неправильную окраску фактов и не лишенны автором некоторой тенденциозности преувеличения, в особенности резко бросающиеся в глаза в стихотворениях, посвященных общественным явлениям. [1])

---

[1]) «Гродненские губеррнские ведомости». Неофициальная часть. 1894, № 71.

Н. РАДЗІН [1]) ПАМЯЦІ Ф. БАГУШЭВІЧА.

Гэта было гадоў 10 таму назад. У невялічкай залі крымінальных паседжаньняў акруговага суду разглядалася «незвычайная справа». Нейкі чалавек старчага веку быў абвінавачваны ў праступку палітычнага характару, што пагражала яму даволі цяжкай карай.

— Ваше имя и звание? — спытаўся яго старшыня. Абвінавачаны зь вялікім высілкам падняўся з падсуднай лаўкі. Вочы яго былі поўныя сьлёз. Старшыня, відаць было, быў знэрвованы, зьвярнуўся да яго ячшэ раз з тым-жа пытаньнем, зьмякчыўшы адно голас, быццам выглядала: «ня лёгка судзіць плачучага дзеда«.

— Я прашу вырашыць... Не магу сядзець, дзе звычайна... злодзеі...

І стары цяжка апусьціўся на сваё месца — ён ня мог пераЖыць ганьбы.

Запанавала дурнаватая атмасфэра. Старшыня й сябры суду сталі нэрвова пераглядаць многія дакуманты. З лавы абвінавачаных чутно было неакрэсьленыя, але выразна зласьлівыя гукі. Прыдзьверны цёр кулаком вочы...

— Я маю гонар прасіць суд дазволіць абвінавачанаму сесьці разам са мной, за сталом абароньнікаў.

Чароўныя вочы Ф. Багушэвіча, сказаўшы гэтыя словы, выражалі глыбокае пачуцьцё жалю.

Старшыня шапнуў нешта судзьдзям, але тыя адно, як было відаць, рухалі губамі.

— Нажаль, я не магу задаволіць вашай просьбы, — сказаў старшыня Багушэвічу.

Ф. Багушэвіч тады ўстаў ды сам сеў на лаўку абвінавачаных побач свайго кліента.

На выгляд маленькая, незавучальная справа! У сапраўднасьці — вялізны чын! Пачуцьцё, што штурхнула Багушэвіча на гэткі паступак — гэта краса чалавечай душы: любоў няшчасных і пакрыўджаных...

Так, ён любіў, гэтых няшчасных і пакрыўджаных... Усё сваё жыцьцё ён пасьвя-

цыў на абарону тых, хто паводля яго перакананьня, лучыў у канфлікт з тагачасным правам, бо тагачаснае права было несправядлівае... Ён гэта стараўся паказаць наглядна ды актуальна, як Сакрат у старажытнасьці... Ён са сьвечкай у руках стараўся знайсьці абаронцу чалавека і чалавечае права...

Ён быў здольны славамі й чынамі зварухнуць чалавечую душу. А гэта была ягоная любоў да пакрыўджаных ды нясчасных, ягоная вера ў чалавека, хай сабе, зрабіўшага праступак... І часта здаралася, што Ф. Багушэвіч пераймаў на сябе ўсе кошты, абароненых кліентаў. І тады быў ён шчасьлівы. Звычайна сумнае выяўленьне ягонага твару зьмянялася сонечным, і радасны настрой яго духа ў гэткія хвіліны выражаліся ў каскадзе радаснага выяўленьня яго твару.

Ф. Багушэвіч некаторы час быў судовым сьледчым у адной з паўдзённых губэрняў. [2]) Тут ён здабыў сярод вясковага насельніцтва вялізную папулярнасьць. Яго называлі «бацькам» дабрачынцам у судовых справах.

Але яго цягнула на родную Бацькаўшчыну — Беларусь. Таму ён у гэтую пару пайшоў да старшыні суду, ды дамогся, што дазволілі яму выехаць...

Нябошчык быў сапраўдным прадстаўніком прысяжнай адвакатуры «першага пакліканьня», быў перанятым гуманнымі тэндэнцыямі суду ў 1864 г. Увесь час свайго прабываньня на пазыцыях прысяжных дараднікаў, ён змагаўся супраць нябесьпечных навейшых поглядаў у адвакатуры. Ён супраціўляўся словам, трапным й мудрым адказам на круцельства казённых адвакатаў, якія ня дбалі пра свае казённыя абавязкі. І ён меў на гэта ўсе дакумантальныя асновы —існуючае права...

Рады справядлівых людзей радзеюць. У гэтых радох Ф. Багушэвічу належала высокае месца.

Сьпі супакойна, добры й чэсны Чалавек!

«Северо-Западное слово» 1900, 18 красавіка, № 507.

**Дапіскі:**

[1]) Радзін Мікалай — сакратар рэдакцыі віленскай газэты: «Северо-Западное слово», добры знаёмы Ф. Багушэвіча.

[2]) Ф. Багушэвіч працаваў судовым сьледчым у Чарнігаўскай губэрні (г. Борэна й г. Канатоп).

## ЛЮЦЫЯН УЗЕМБЛА. [1]) ФРАНЦІШАК Б. БАГУШЭВІЧ.

«Памяць памёршага Франціся Багушэвіча ўшаноўваю глыбока. Вестку пра яго сьмерць прыняла з сардэчнай сьлязой. Быў ён адным з высокародных людзей, якія служылі нашай зямлі й народу, а для мяне асабіста, адным зь вельмі не шматлікіх сяброў. Успаміны пра яго для мяне дарагія ды маркотныя». [2])

Так шчыра смуткавала наша вядомая пісьменьніца ў сувязі са сьмерцяй Ф. Багушэвіча, Арэшчыха. [3])

У родных Кушлянах, на ашмянскай зямлі, памёр 60-гадовы Ф. Багушэвіч, пахаваны 1-га траўня гэтага году ў суседніх Жупранах... Шчасьце сваё бачыў у любові да народу, які ведаў так нядолю, як замілаванасьць да роднай бацькаўшчыны, які свае цудоўныя гутаркі, народныя казкі, апавяданьні вершам, маналёгі ды песенькі друкаваў у зборніках пад псэўданімам Мацея Бурачка й С. Рэўкі. [4])

Зь вялікаю прыемнасьцю слухалі ў часе дэклямацыяў яго папулярныя песьні ды апавяданьні вершам [5]) у стылі Сыракомлі, значна лепшыя, чым В. Марцінкевіча, аўтара «Дудара беларускага».

Чульлівыя, гумарыстычныя ці сатырыстычныя вершы Багушэвіча заўсёды вызначаліся шчырасьцю й займальнасьцю' вельмі часта чэрпалі яны з народных крыніц.

Юрыдычную навуку Багушэвіч атрымаў у Нежыне, у ліцэі, а перад гэтым каротка вучыўся ў Пецярбургскім унівэрсытэце, потым настаўнічаў на працягу 1862 году ў Лідскім павеце (Доцішкі), гімназію закончыў у Вільні. Каля 20 год быў судовым сьледчым у Валагодзкай губэрні (нядоўга) й у Чарнігаўскай (аснаўны час), пасьля 14 год адвакатам пры Віленскім судзе. Багушэвіча любілі за справядлівасьць і спачуваньне адносна бедных кліентаў, асабліва да сялян, за чулыя людзкія пачуцьці; яго ставілі за ўзор тым калегам па прафэсіі, якім кар'ерызм засланяў разуменьне справядлівасьці ды гуманізму; ня любіў ён арыстакратызму багатых адвакатаў; быў прасякнуты ідэяй дабра й служэньня грамадзтву.

Два гады таму назад паэта адчуваў сваю сьмерць і пісаў такія радкі:

Дагарае рэшта вецьця
У пячурцы ў хаце,
І гаворыць нешта ў сэрцы:
«Так і будзе з табой, браце». [6])

Мучыла яго хвароба нырак — і дагарэла ў пячурцы. Памяць пра паважанага чалавека засталася назаўсёды.

«Век» 1900. (Пераклад з польскай мовы).

**Дапіскі:**

[1]) Уэмбля Люцыян (1864-1942) — літаратар і гісторык культуры, зьбіральнік рэдкіх кнігаў і рукапісаў.

[2]) Відаць Л. Уэмбля выкарыстаў у сваім артыкуле спачувальны ліст ці тэлеграму, якую прыслала Эліза Арэшка сям'і Ф. Багушэвіча з прычыны яго сьмерці.

[3]) Ф. Багушэвіч падтрымліваў цесныя сяброўскія сувязі з Э. Арэшчыхай з Горадні. Доўгі час перапісваўся з ёй (захавалася некалькі лістоў Ф. Багушэвіча да Э. Арэшчыхі, а таксама ягоны верш: «Яснавельможнай пані Арэшчысе», напісаны ў сувязі з 25-годзьдзем літаратурнай дзейнасьці гродзенскай пісьменьніцы).

[4]) Маецца на ўвазе зборнічак «Скрыпачка беларуская».

[5]) Відаць, Л. Уэмбля мае на ўвазе апавяданьне «Тралялёначка», але гэта быў не вершаваны, а празаічны твор.

[6]) Радкі з верша Ф. Багушэвіча пісаны ў польскай мове: «дагарае рэшта вецьця», якія быў перасланы ў Вільню Зыгмунту Нагродзкаму.

## НАПАЛЕОН РОУБА. [1]) ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.

18 красавіка [2]) гэтага году памёр вядомы віленскі адвакат і народны пісьменьнік Францішак Багушэвіч.

Незабыўны Францішак Багушэвіч нарадзіўся ў 1840 г. у фальварку Сьвіраны каля Вільні ў шляхоцкай сям'і сярэдняга стану... Пасьля сканчэньня гімназіі адправіўся ў Пецярбург на унівэрсытэт на матэматычныя й прыродаведныя навукі.

У1860 г. вярнуўся дамоў, дзе ў хуткім часе быў запрошаны на пасаду настаўніка ў школу, створаную спэцыяльна для сялян у Доцішках (Лідзкі павет) багатым ды адукаваным панам Зьвяровічам.

У 1863 годзе паехаў у Нежын ды паступіў на юрыдычны ліцэй, які скончыў

пасьпяхова... Спачатку, як кандыдат на судовую пасаду, потым, як судовы сьледчы працаваў у Чарнігаўскай і Валагодзкай [3]) губэрнях. Тут па службовых справах пабываў у розных мясцовасьцях ды сярод розных людзей, ён пакінуў па сабе добрую памяць у шырокіх грамадзкіх колах.

У1884 годзе пайшоў у адстаўку ды жыў у Вільні. Аднак, паколькі грашавыя сродкі не дазвалялі яму поўнасьцю аддацца літаратурным заняткам, быў змушаны заняцца адвакатурай...

З часу апошняга пераезду ў Вільню, Ф. Багушэвіч, які добра ведаў жыцьцё ды людзкія норавы, любіў фальклёр, заняўся літаратурнай справай, якой раней удзяляў увагу зрэдку й толькі выпадкова.

Па-польску пісаў мала, бо хацеў пісаць перш за ўсё для свайго народу, які жыў у яго родных мясьцінах (Ашмянскі павет) і гаварыў пераважна па-беларуску.

І вось паэта паводля свайго стымулу ды душы, характару, становіцца сяньня беларускім паэтам, паэтам перадавым таго часу. Беларуская мова багатая, звонкая ды дасканалая: ужо больш 200 гадоў вышла на шырокія прасторы свайго адраджэньня... У гэтым нам дапамагла эпоха беларускага Адраджэньня... Цяпер справу паставіў перад сабой Ф. Багушэвіч, ня маючы адпаведных узораў, ні дастатковых крыніц. Засталося яму адно: чэрпаць поўнай жменяй з адной крыніцы — з народных вуснаў ды здабыты матарыял адпаведна апрацоўваць.

Так ён і рабіў. Дзевяць гадоў назад зьявіўся першы зборнік пад назовам «Дудка» [4]) Мацея Бурачка, а праз некалькі год другі — «Смык» [5]) Сымона Рэўкі з-пад Барысава. Абодвы гэтыя зборнікі паводля сваёй формы напамінаюць гавэнды ды вершы Уладыслава Сыракомлі: нагадваюць таго й вялікім пачуцьцём замілаванасьці да свайго народу...

Яны зьмяшчаюць арыгінальныя творы Ф. Багушэвіча, авеяныя сапраўдным натхненьнем, а часам мілым ды шчырым гумарам. Адзначыць трэба таксама, што гэтыя зборнікі, напісаныя бездакорнай беларускай мовай, стануць помнікамі, бо народная мова ўвесь час зьмяняецца ды моцна фальшуецца.

Зь іншых друкаваных твораў ведаем толькі невялічкі сатырыстычны твор «Тралялёначка», які ўмела паказвае на варыяцыі грамадзкага быту нашага народу.

Апрача таго засталося шмат твораў нябошчыка ў рукапісах ды ёсьць надзея, што выйдуць яны новай кніжкай, для якой Ф. Багушэвіч ужо прыдумаў назоў — «Скрыпка» Беларуская... [6]) Але найбольшую страту грамадзтву прынесла заўчасная сьмерць, што не дала закончыць твору найважнейшага, а менавіта «Беларускага слоўніка». [7]) Гэтая праца магла-б стаць асновай для будучых дасьледнікаў нашай мовы, ды ў нейкай ступені — крыніцай, якая рыхтавала-б далейшых працаўнікоў на гэтым адрэзку.

Дык нічога няма дзіўнага, што на паховіны ў Жупранах прыехалі прадстаўнікі ўсякіх слаёў грамадзкасьці ды палажылі на магілу вянок, каб аддаць чэсьць і пашану за Ягоную працу ды заслугі.

«Тыгоднік Ілюстраваны», 1900, № 23. (Пераклад з польскага).

**Дапіскі:**

[1]) Роўба Напалеон (1860- каля 1928) — польскі журналіст і публікатар, добры прыяцель Ф. Багушэвіча, выступаў з прамовай на пахаваньні беларускага паэты ў Жупранах.

[2]) Недакладнасьць; Ф. Багушэвіч памёр 15(28) красавіка, 18 красавіка яго па-

хавалі на Жупранскіх могілках.

[3]) Ф. Багушэвіч «па хваробе» звольніўся быў са службы ў Чарнігаўскай губэрні ды пераехаў у Гразавецкі павет Валагодскай губэрні, але ў 1872 годзе зноў пераехаў у Чарнігаўшчыну.

[4]) Поўны назоў «Дудка беларуская».

[5]) Поўны назоў «Смык беларускі».

[6]) Трэйці паэтычны зборнік павінен быў называцца «Скрыпка беларуская».

[7]) «Беларускі слоўнік», над якім працаваў Ф. Багушэвіч, перахоўваўся ў сям'і паэты, і лёс яго невядомы.

## НАПАЛЕОН РОУБА. ПАЭТ БЕЛАЙ РУСІ.

(Артыкул другі. У шостую гадавіну сьмерці Францішка Багушэвіча).

15(28) красавіка гэтага году (1900) спаўняецца шэсьць год з дня сьмерці незабыўнага Францішка Багушэвіча, вядомага ды паважанага ў юрыдычным сьвеце віленскага адваката й земляўласьніка з Ашмянскага павету.

17(30) красавіка [1]) 1900 г. у вельмі прыгожым Жупранскім гатычным касьцеле сабралася сям'я памёршага, сябры й суседзі, а зь Вільні прыехалі дзьве даволі вялікія групы з абрадавымі пышнымі вянкамі. Адну з гэтых груп складалі прадстаўнікі Віленскай Адвакатуры, а другую — прыхільнікі таленту Ф. Б(агушэвіча) [2])

Адвакат і паэта! Земляўласьнік і самы шчыры народны пясьняр!

Таму, апрача вышэй пералічаных, бедныя жупранскія могілкі запоўніў натоўп сялян, якія разьвіталіся са сваім песьняром і абаронцам.

І спачыў незабыўны Францішак Багушэвіч у гэтым айчынным пяску, ашмянскім пяску, а на сьвежа насыпаным кургане паклалі яму самы просты й самы сапраўдны вянок зь літоўска-беларускай яліны...

Ушанавалі такім чынам мужа, бацьку, земляўласьніка, спэцыяліста ды сябра й адзінага ў той час беларускага песьняра ды паэта. На гэтых сьціплых жупранскіх могілках супачыў... вельмі шанаваны Мацей Бурачок і Сымон Рэўка з-пад Барысава ў адной асобе.

І спачыў ён у айчыннай зямлі, якую так горача любіў, спачыў пасьля цяжкага шасьцідзесяцігадовага жыцьця, поўнага разачараваньняў, турботаў ды незгасальнага смутку. Бо цяжкое-ж было гэта жыцьцё лятуценьніка зь бязьмерна ўражлівым сэрцам і моцна разьвітай назіральнасьцю! Сьлёзы ды сум не пакідалі яго ніколі, ні сярод сваіх, ці чужых, дзе так доўга ён быў змушаны знаходзіцца, ды цягнуліся за ім да апошніх хвілінаў жыцьця.

Але пісаў ён, пісаў свае цудоўныя гутаркі, песьні й байкі, пісаў па-беларуску, для свайго народу, якога ён знаў ды любіў, а ў свае творы, укладаў праўду са сьлязьмі ды сумам, як канву тагачаснага жыцьця...

Толькі зрэдку, як самапачуцьцё праясьнялася ў ягонай душы, тады з-пад ягонага пяра прабіваліся промяні шчырага народнага гумару, сям-там, аднак, пераходзячы ў іронію ды смутак.

Ды як «Хмаркі» бяздомныя й гнаныя віхурай, праходзіла жыцьцё Францішка Багушэвіча, пакуль не ўзмоцніў сяк-так сілы й не асеў на айчынным загоне.

Аднак не надоўга. Толькі на хвіліну адпачынку перад вечным падарожжам.

Не шукаў ён славы, заробкаў ды славы, а шукаў адно мінімальнага заробку, каб зьвязаць канцы з канцамі ў працы дзеля дабра роднага краю.

Гістарычная навальніца была непамерна цяжкай хмарай навісла над (Літвой — Беларусяй). [3])

(...) Не шукаў ён славы, прыбыткаў і пашаны, а шукаў для сябе цяжкой працы. І так было ўсё жыцьцё.

Надыйшоў 1863 г., а некалькі пазьней прыбыў Мураў'ёў. Ф. Б(агушэвіч) паступіў у паўстанцкія групы [3]) ды дайшоў ажно да Сувальскай (тады Аўгустоўскай) губэрні. Будучы параненым у нагу, на шчасьце, аднак, знайшоў там прытулак і апеку ў доме пп. Крушэўскіх, якія потым памаглі яму вярнуцца ў Вільню.

Неўзабаве й навальніца ўжо крыху аслабела: толькі водгукі, якія засмучалі ды душылі, толькі крыкі хвілёвыя й кароткія... Ф. Багушэвіч здолеў спакойна, на аддаленых украінскіх правінцыях, перачакаць гэты найгоршы час і ў першую хвіліну, калі вярнулася зноў сякое-такое жыцьцё, паступіў у юрыдычны ліцэй у Нежын (Чарн. губ.)...

З дыплёмам юрыста ня меў магчымасьці вярнуцца на Бацькаўшчыну, а дзеля кавалка хлеба некалькі гадоў выконваў па чарзе абавязкі судовага сьледчага ў Чарнігаве, Волагдзе ды Борзьне пры колішнім старым парадку судовых установаў, пакуль не спыніўся ў Канатопе (Чарн. губ.)...

У гэтыя гады вандраваньня на чужыне Ф. Багушэвіч стварыў сабе сямейны кут [4]) ды здабыў шырокае кола сяброў сярод судовых чыноўнікаў — расейскіх інтэлігентаў. У свабодныя ад працы хвіліны пісаў вершы па-беларуску, і яны адразу гінулі ў прыватных зборах сяброў.

Журба па бацькаўшчыне, настальгія цэлага шэрагу гадоў... Але надышоў 1884 год, двое любых дзяцей, дачка Канстанцыя й сын Тамаш, дасягнулі ўзросту, калі ўжо быў час думаць аб іхнім выхаваньні, і адначасова дбаць пра тое айчыннае паветра, тое роднае наваколье, якое неабходнае дзеля фармаваньня юначых душ.

Нараджаецца дылема: з аднаго боку, Францішак Багушэвіч атрымлівае пасаду сябры акруговага суду [5]), г. зн. мае магчымасьць зрабіць вялікі крок на шляху да карыеры, а з другога — мноства турботаў — гэты незгасальны сум па радзіме...

І, відавочна, перамагае апошняе. Ф. Багушэвіч вяртаецца ў Вільню, пасяляецца тут і, вытрымаўшы экзамен, становіцца адвакатам пры Віленскім акруговым судзе...

Аднак ужо хутка ён вылучаецца, як кваліфікаваны прысяжны адвакат у добрым стылі, што вельмі часта прымірае праціўнікаў у сваёй канцыляры ці перад судом, а ў якасьці ганарара атрымлівае... зайца, або што іншае... ці гісторыю пра новую бяду.

Для Ф. Багушэвіча гэтага хапала, паколькі патрэбы ён меў незвычайна сьціплыя... Жыў у нешматлікіх колах сваіх блізкіх, а ў час адпачынку йшоў са стрэльбай і выжлам на любімае паляваньне, і тады быў найбольш шчасьлівым.

А некаторыя паперы яго насьпех пісаныя паэтычнымі творамі, паступова зьбіраліся...

1896 год засьвяціў ясным праменям у жыцьці Ф. Багушэвіча, бо ён атрымаў у спадчыну пасьля памёршага сваяка Тадэвуша суму грошай, што дазволіла яму зьдзейсьніць мары свайго жыцьця. Гэта значыць кінуць занятак, які адно даваў хлеб ды асесьці на айчынным загоне, ды поўнасьцю аддацца працы для сваёй Бацькаўшчыны.

Неўзабаве ён разьлічваецца з арандатарамі спадчынамі з хвальварку Кушляны (Ашмянскі павет), сплачвае сваякам даўгі ды аднаўляе гаспадарку, на працягу многіх гадоў зьнішчаную арэндатарамі. Будуе сваю хату, а як яе разумее, сьмед-

чыць такі, напрыклад, вершык, «Мая хата».

Амаль напярэдадні таго апошняга пераезду на вёску Ф. Багушэвіч прымае ўдзел у калектыўнай экскурсіі на лодках па Вільлі да Коўна, і Нёманам да Юрбурга.

Экскурсія працягвалася амаль цэлы тыдзень, і Ф. Багушэвіч аказаўся самым выносьлівым, таму што разам са сваім сваяком і сябрам Габрыелям Радзевічам дайшоў да Балтыкі. Ды нават даваў у дарозе прыклад самым маладым, як можна абыходзіцца бяз многіх выгад. Вогнішча над берагам ракі, кавалак вэнгерскага сала, талерка кашы ды чарка гарэлкі — гэта цэлы баль, а бурка ці гумовы плашч на пяшчаным беразе ракі, або на сене ў адрыне — гэта начлег над начлегамі. А побач з гэтым колькі дасьціпнага гумару й анэкдотаў у запасе — нават самых зморaных умеў ён ажывіць і разварушыць.

Амаль у прадчуваньні заслужанага адпачынку ў Кушлянах, Ф. Багушэвіч зьнямог у выніку хранічнай ды запушчанай хваробы і, толькі сяк-так падлячыўшыся, пакінуў Вільню назаўсёды ўвосень 1898 г.

Творы Ф. Багушэвіча былі выдадзеныя двума томікамі. Яны зьмяшчаюць арыгінальныя творы Ф. Багушэвіча. Апрача аднаго толькі пад назовам «Панскае ігрышча», пададзенага для паўнаты ды значна раней напісанага п. Юркам. [6]) У іх ліку ёсьць таксама некалькі перакладаў ды насьледываньняў, што, аднак, зусім не зьмяняе іх вартасьці; да іх належаць дзьве байкі: «Воўк і авечка», і «Сьвіня й жалуды».

Ад усіх 40 меншых і большых паэтычных твораў, зьмешчаных у «Дудцы» й «Смыку», павявае глыбокая ды сардэчная любоў да народу, спачуваньне да яго неасьвечанасьці ды нядолі, навязанай чужацкай няволяй. Вось чаму Багушэвіч гаворыць:

Ня чурайся мяне, панічок,
Што далонь пакрываюць мазолі;
Мазоль — працавітых значок,
Не заразіць цябе ён ніколі.

Ды мушу тут яшчэ адзначыць (...) што й музэй у Рапэрсвілі [7]) ды Нацыянальны музэй у Кракаве ўдзячны яму за многія каштоўныя памяткі, якія ён рупліва набываў ды перасылаў з прыемнасьцю.

Па-польску пісаў ён мала, аднак захаваўся ў памяці вельмі папулярнай песенькай на мэлёдыю й кампазыцыю іншай, ня менш вядомай:

Прэч бутэлькі, люлькі, карты!
Марнатравіць час ня варта,
Хай жывыя пойдуць з кіем
У сьвяты паход!.. [8])

У Кушлянах, дзе ён скончыў жыцьцё, ёсьць поблізу дому пад узгоркам, вялізны валун, дзе с. п. Ф. Багушэвіч любіў пасядзець ды разважаць. На гэтым камяні, стараньнем яго адаратараў выбіты надпіс:

«Памяці Мацея Бурачка».

«Курьер Літэвскі», 1906, 15(28) красавіка, № 84. (Пераклад з польскай).

---

[1]) Паводля іншых вестак, Ф. Багушэвіч быў пахаваны 18 красавіка (1 мая) 1900 г.

[2]) Сярод іх быў і аўтар гэтай перша-крыніцы.

[3]) У гэтым артыкуле Н. Роўбы ўпершыню гаворыцца адкрыта аб удзеле Ф.

Багушэвіча ў Паўстаньні 1863 г.

[4]) Восеньню 1874 г. у Канатопе Ф. Багушэвіч ажаніўся з Габрыевіч, родам зь Беларусі.

[5]) Ф. Багушэвічу давалі пасаду «члена» акруговага суду ў Сувалках, але ён палічыў лепшым быць адвакатам у Вільні, бліжэй да родных мясьцінаў.

[6]) Твор «Панскае ігрышча» прыпісваецца розным аўтарам. Многія аўтары лічаць за аўтара Фэлікса Тапчэўскага.

[7]) Польскі музэй у Рапэрсвілі (Швайцарыя), пазьней перанесены ў Варшаву, зьнішчаны ў часе Другое сусьветнае вайны.

[8]) Маецца на ўвазе верш Ф. Багушэвіча на польскай мове («Прэч бутэлькі, люлькі, карты!»).

---

Васіль Сініца

# МАЁ МЯСТЭЧКА

## ( УСПАМІНЫ )

працяг

### РЫНАК І ЯГО ЖЫХАРЫ

Пры выхадзе на рынак Гарманаўскай вуліцы знаходзіўся невялікі, якіх 100 x 150 мэтраў пляцок называны Конскім рынкам. На ім у кірмашныя дні (аўторкі) адбывалася продаж жывёлы, а таксама зьмяшчаўся будынак Пажарнай Аховы (Пажарная). Далей на ўсход ад яго знайходзілася Царква, так што мур яе агарожы прытыкаў да ўсходняе стараны Конскага рынку. Магчыма, што польскія ўлады й наўмысна ўлякавалі Конскі рынак пры Царкве, каб хоць такім чынам дапячы «сьхізматыкам». Далей на ўсход ад царквы знаходзіліся два будынкі пачаткавай школы, і дзеля гэтага простая лінія школы, Царквы й Конскага рынку тварыла паўночную лінію рынку, а далей пераходзіла ў Маставую вуліцу на захадзе й у Дзісьненскую на ўсходзе. Ад рогу Дзісьненскай, праз усю шырыню рынку з усходняй стараны ўзвышаўся вялізарны будынак мураванкі. Мураванка, відаць, некалі была карчмой, аб чым сьведчылі: агромная стадола для фурманак, а таксама даволі вялікая заля, і меншыя пакоі для гасьцей. У 30-тыя гады мураванка была грунтоўна перабудаваная яе ўласьнікам графам Плятэрам. Пазьней на яе партэры зьмяшчаліся: суд, пастарунак, (ня бяз прычыны названы местачкоўцамі «застаронкам»), з паўдзесятка лепшых крамаў, даволі вялікая абутковая майстэрня Адамовіча, найлепшая ў мястэчку цырульня Пётры Храла й г. д., а на паверсе знаходзіліся некалькі памешканьняў, у якіх жылі местачковыя й графскія ўрадаўцы.

На паўдзённым канцы мураванкі пад кутом з паўдзённага ўсходу на рынак выходзіла Касьцельная вуліца. Паўдзённы бок рынку, пачынаючы ад Касьцельнай да Млынскай і заходні ад Млынскай да Маставой быў забудаваны невялікімі дамкамі ў якіх, пераважна з фронту былі крамы, а ад панадворкаў кватэры ўласьнікаў. Пасярод рынку яшчэ за мае памяці ўзвышалася вялізарная драўляная будыніна ў форме квадрату ў якой зьмяшчалася ажно 16 крамаў. У 1920 годзе гэтая будыніна была спаленая бяз відавочнай на гэта прычыны, праходзячым праз

мястэчка 7-м палком польскае пяхоты. Пасярод-жа рынку пры дарозе, якая перасякала яго па дыяганалі з Гарманаўскай на Касьцельную вуліцу, стаяў вялікі крыж абгароджаны даволі высокай зялезнай загародкай.

Мушу прызнацца, што для майго дзіцячага ўяўленьня сапраўднай аздобай рынку былі не апісаныя вышэй аб'екты, але агромная лужына й да таго, амаль, ніколі ня высыхаючая. Ах, што за лужына! Мог-бы, напэўна, сказаць нябожчык Гогаль, але толькі бяда ў тым, што ён яе ніколі ня бачыў. Так, гэта была сваяасаблівая лужына. Яна, як і Тумалёнкава вулка, не перасыхала нават і ўлетку, і ў ёй аж да позьняй восені купаліся падсьвінкі, — уласнасьць бацькі маіх пазьнейшых школьных сябровак Рэні й Стасі Вяршылоўскіх. А на гэтых купальшчыкаў прыглядаліся з філязафічным спакоем козы іншага жыхара рынку. Дый не абы якога сабе жыхара, але ведамага Воўкі (Уладзімера) Баравіка. Ведамым быў ён яшчэ як пажарнік пад клічкай: «Друя гарыць, зарыва на Маргі». Гледзячы на паверхню гэтай лужыны выдавалася, што ў ёй вось-вось заквокчуць жабы. Але галоўная яе вартасьць, для нас наймаладзейшых жыхароў мястэчка, выяўлялася позьняй восеньню або раньняй зімой, калі яе яшчэ не засыпала сьнегам і там мы рабілі коўзанку, якой-бы не паўстыдаўся й горад. Тады мы ўсёй школай бегалі туды коўзацца на кожным перапынку. Увайшоўшы ў спартовы азарт мы часта ня чулі званка на пачатак наступнай лекцыі, або й не зьвярталі на яго ўвагі, выклікаючы гэтым нічым не пагамаваную злосьць школьнага прыбіральшчыка-стоража Ільлі, па клічцы «Красівенькі». Тады Ільля насіўся за намі па ўсім рынку з дзеркачом і пагрозамі: «ужо-ж вам дастанецца гасьцінца ад пана кіроўніка!» Трэба дадаць, што Ільля дзеля нейкага недахопу ў горле гаварыў заўсёды «ў нос» і ў яго замест «кіроўніка» — выходзіла «кароўніка». Гэтае «кароўніка» прыводзіла нас у цялячае захапленьне й мы выбачалі Ільлю й ягоную злосьць і дзяркач, і нават не дражнілі яго Красівенькім.

У сярэдзіне 20-ых гадоў мясцовая адміністрацыя пад націскам успамінанага ўжо КОП-у, вырашыла нарэшце рынак выбрукаваць. Тады прыйшоў канец і нашай лужыне. Неяк на прадвесьні на рынак пацягнуліся даўгія хвасты сялянскіх фурманак са жвірам і каменьням, а за імі прыйшлі й брукоўшчыкі, якія зрабілі з рынку зусім прыгожы, раўнюсенькі пляц. Такі пляц, якому ня стыдна было-б аказацца ў Глыбокім, ці Дзісьне. Там, дзе была лужына, цяпер два разы ў год на 3-га траўня й 11 лістапада стаялі афіцэры й розныя польскія паны й паўпанкі прымаючы «дэфіляду» войска, пажарнікаў, «стжэльцаў», ну, й нас — школьнікаў, тупацеўшых як стада авец, каб неяк патрапіць ісьці «ў нагу» пад такт «Брыгады», якую рэзала мясцовая жыдоўская капэля, якая пасьля была заменена вайсковай аркестрай. Праўда, гэтыя дэфіляды, хоць і ў малой меры, замянялі нам страту лужыны, але гэта было зусім ня тое.

У хуткім часе рынак яшчэ раз зьмяніў сваё аблічча, — гэта калі Пілсудзкі, яшчэ за свайго жыцьця загадаў будаваць сабе помнікі. Такі помнік, даслоўна, за пару дзён вырас і на нашым рынку.

Я ў тым часе ўжо настолькі вырас, што меў на думках больш паважнейшыя справы, і выгляд рынку быў для мяне ўжо другарадная справай, але наступныя па мне гадавікі хлапцоў, і нават дзяўчат, часта з сумам успаміналі стары рынак. Яны па некаторым часе зрабілі адкрыцьцё, што пры помніку зусім добра можна было праводзіць розныя гульні, а асабліва гуляць у «палачку-стукалачку», тымбольш, што якраз супраць яго быў высокі, на якіх 11-12 ступенькаў ганак мура-

ванкі з таўшчэзнымі калёнамі. Дык дзетвара была амаль што задаволеная, яна нават акрэсьленьне сабе падабрала, бо калі ня мела чым заняцца, то казала, пойдзем да «Юзіка» гуляць у палачку. (Імя Пілсудзкага было Язэп).

Ну, а цяпер варта прыгледзіцца бліжэй да жыхароў рынку, дый ня толькі тых, дамы якіх стаялі навакол яго, але й да тых, якія, так сказаць, зьяўляліся неад'емнай яго часткай і ўрасьлі ў яго карэньнямі.

Бязумоўна першым зь іх быў пажарнік Воўка Баравік. Ягоная хаціна стаяла з паўдзённага боку рынку, якраз насупраць былой лужыны. Яна была ўся пачарнелая ад старасьці й так пакрыўленая, што выдавалася цудам, як яна не валіцца на галовы сваіх гаспадароў. Яна, так сказаць, увайшла ў мясцовую гісторыю й фальклёр, бо аб ёй казалі што яна памятае, як «французы йшлі на Маскву», або, калі хтосьці меў кіслую міну, дык ў яго пыталі: чаго ты так скрывіўся, як нераўнуючы, Воўкава хата?

З чаго жыў Воўка й дзьве шмат старэйшыя за яго незамужнія сёстры, хіба застанецца ніколі неразгаданым. Ведама, што за ягонае пажарніцтва ніхто яму не плаціў ані граша,, бо пажарнікі за сваю службу звальняліся толькі ад т. зв. «шарварку» (працы пры направе дарог), а акрамя таго гміна выдавала ім раз на ўсё жыцьцё «рагатыўкі» й сінія мундзіры з чырвонымі кантамі. Гэтыя рагатыўкі й мундзіры яны павінны былі апранаць толькі ў часе дэфілядаў, ці іншых урачыстасьцяў. Ніхто, аднак, ніколі ня бачыў, каб Воўка штосьці рабіў, ці быў чымся заняты, але гэтаксама ніхто ня мог яму закінуць ніякіх цёмных махінацыяў дзеля здабыцьця кавалка хлеба, як гэта часамі рабілі іншыя жыхары мястэчка.

Калі ягоныя сёстры хоць час ад часу поркаліся ў малюсенькім гародчыку за хатай, дык Воўка ад раньня да вечара, часамі й ня гледзячы на пагоду, нярухома стаяў, а радзей сядзеў перад сваім «палацам». На галаве яго нязьменна красавалася спаўзаючая на вочы, або залежна ад фантазіі гаспадара, ссунутая на патыліцу рагатыўка, з паламаным і пасчэпліваным дротам ды акаваным мядзянай бляшкай казырком. У губах заўсёды тырчэў даўно пагаслы недакурак. Наагул трудна сабе ўявіць больш камічную постаць, чым Воўка. Не гаворачы ўжо аб ягонай рагатыўцы, якая ад штодзённага ўжываньня прыняла выгляд нейкага бязформеннага мяшка неакрэсьленага колеру. (Воўка не падпарадкоўваўся правілам, і не захоўваў яе толькі на ўрачыстасьці). Уся іншая вопратка была для яго чамусьці завялікая й вісела на ім, як на калку. На худаватым твары красаваўся даволі такі вялізны нос сіня-чырвонага колеру, а пад ім ярка рыжага колеру вусы, хоць і рэдкія, але даволі даўгаватыя. Гэтыя вусы таксама заслугоўваюць, каб ім прысьвяціць крыху ўвагі. Вось-жа з няведамых бліжэй прычынаў, былі яны заўсёды насмараваныя нейкім рэчывам і закручаныя так, што адзін канец прыпамінаў кайзера Вільгельма ІІ-га, бо быў закручаны ўгору, а другі ні то Чынгіз-Хана, ні то Тараса Бульбу. Некаторыя казалі, што вусы Воўкі зьмяняюць напрамак залежна ад пагоды. На нагах у Воўкі незалежна ад пары году, былі заўсёды адны й тыя самыя боты з даўгімі вышэй калена халявамі й пазагінанымі навыгляд лыжаў насамі.

Але ніхто ня мог пазнаць Воўкі, калі дзесь у ваколіцы здараўся пажар. І адкуль толькі ў яго бралася рухавасьць? Пачырванеўшы на твары й надуваючы шчокі ён сьпярша што сілы дзьмухаў у сваю пажарніцкую трубку, а пасьля ня бег, але проста, як на крыльлях, ляцеў у кірунку пажарнай. У паважнейшых выпадках ён яшчэ пасьпяваў узьбегчы на царкоўную званіцу й ударыць «на гвалт» у званы. Ня трэба казаць, што прыбыўшы на месца пажару, Воўка не стаяў залажыўшы

рукі, але выказваў вялікую актыўнасьць, хоць-бы нават і тым, што выдаваў бяз-упынна загады, галоўным чынам тым, хто не належыў да Пажарнай Аховы.

Праз наступных некалькі дзён пасьля пажару, Воўка быў як-бы зусім іншы чалавек. Ён ужо не стаяў «на варце» каля свае хаціны, але нэрвова праходжваўся ўзад і ўперад каля яе. Калі яго хтосьці мінаў з местачкоўцаў, ён падбягаючы й хітравата падміргваючы вокам кудысьці ў бок, паднечаным голасам казаў: — Значыць ты ўжо чуў, што сталася!? І калі той выяўляў ахвоту паслухаць, дык Воўка вельмі падрабязна апавядаў прабег пажару, адводзячы сабе немалую ролю ў гашэньні яго; паўтараючы па некалькі разоў адны й тыя самыя факты, аднак уносячы ў іх за кожным разам невялічкія зьмены. Але праходзіла некалькі дзён і Воўкава ўзбуджанасьць канчалася аж да наступнага пажару.

Як я ўжо ўспамінаў, Воўка меў клічку «Друя гарыць, зарыва на Маргі», і гэтая клічка затручвала Воўку жыцьцё, асабліва ў кірмашныя дні, — у аўторкі, калі да мясцовых падшыванцаў далучаліся яшчэ й вясковыя, якія таксама ведалі гэтую клічку. А паўстала яна вось якім чынам. Нейк цёмнай восеньскай ноччу ў ваколіцы здарыўся вялікі пажар, а зарыва заняло палову неба. Воўка, тымчасам, спакойна стаяў на сваім месцы, дый ня думаў трубіць у сваю трубку. Калі нехта зьвярнуў яму на гэта ўвагу, дык ён адказаў: — Чаго ты крычыш? Гэта-ж Друя гарыць, бачыш зарыва проста на Маргі. Трэба зазначыць, што да Друі ад нас было якіх 45 км. па простай лініі, а вёска Маргі ляжала зусім у супроцьлеглым напрамку. На другі дзень аказалася, што згарэла адлеглая на 3-4 км. ад нас маленькая вёска. Такім чынам Воўка, так сказаць, «не апраўдаў даверу» й у выніку атрымаў на ўсё жыцьцё клічку.

Іншай асаблівасьцю Воўкі было тое, што ён ня маючы ні голасу, ні слуху патрапіў гадамі сьпяваць у нашым царкоўным хоры, і то ў хоры, які славіўся бадай ці не на ўсю Дзісьненшчыну. А справа была вельмі простая. Ягоныя старэйшыя сёстры — Манька й Агата мелі даволі добрыя галасы й неабыякую практыку, бо сьпявалі ад маладых гадоў. І вось аднаго прыгожага дня яны дайшлі да выснаву, што й Воўка мог-бы быць харыстым. Сказана — зроблена. Але на першай сьпеўцы старыя дзячок Лінкевіч ухапіўся за галаву пачуўшы Воўкавы сьпевы. Але тут Агата з Манькай паставіліся яршом, — калі Воўкі не патрэбна, дык і мы ня прыйдзем. Хоць не хаця Лінкевіч пагадзіўся, але пад варункам, што Воўка будзе толькі разьзяўляць рот, але ня сьпяваць. Так ён бядак, бывала кожную Багаслужбу, і стаяў з адчыненым ротам, і часамі забываўся закрыць яго, калі хор ужо даўно перастаў сьпяваць.

Пра Агату й Маньку, — старых дзевак па гадоў 60 хадзіла шмат сьмешных гісторыяў, але дзеля таго, што іх найбольш апавядаў іншы выдатны жыхар рынку, дык ў першую чаргу раскажу пра яго.

Называўся ён Янкель Каплан, але местачкоўцы называлі яго Яньця, або нават пяшчотна Яньцечка, а гэта ў залежнасьці ад таго, якое важнасьці справу яны да яго мелі. Бо Яньця ў мястэчку меў аж тры важныя функцыі. Іх можа-б набралася й каля пяці, але апошнія ўжо ня былі так важнымі. Дык вось па першае ён стрыг, а нават і галіў даволі запушчаныя чупрыны й бароды местачкоўцаў; далей, шыў усякага фасону шапкі, якіх паводля ягоных слоў, не заўсёды хапала й у Варшаве; удадатку яшчэ часаў воўну. Штопраўда, гэтую апошнюю функцыю выпаўняла ягоная жонка Фэйга й куча Яньцянят. Сам ён зьяўляўся ў прыбудоўцы, дзе стаялі машыны, толькі ў выпадку, калі трэба было паладзіць машыну, або калі паўста-

валі непаразумленьні з кліентамі. Гэта ягоныя афіцыйныя функцыі. Да неафіцыйных належыла тое, што ён сватаў, ня вельмі сьмелым кандыдатам да жанімства, дзяўчат, а дзяўчатам, якія заседзіліся ў дзеўках, адпаведных хлапцоў. Таксама «даваў грошы на працэнты» і яшчэ некаторыя казалі, што ў яго можна было збыць усё тое, што набыта было бяз ведама папярэдніх уласьнікаў. Гэта апошняе можа людзі й выдумлялі на яго. Штопраўда, нешта падобнае было здарылася ў часе т. зв. «слабоды», у канцы 17-га ці пачатку 18-га году.

У гэтым часе ў Лужках фактычна ня было ніякае ўлады. Карыстаючы з гэтае «слабоды» Яньця падабраў сабе (а можа й яны яго) супольнікаў, — братоў Цябутаў, жыхараў суседняй вёскі і задумаў пачаць лёгкія заработкі. На першы пачатак яны ўламаліся ў крамку беднай жыдовачкі Лэйкі Рапапарт забраўшы паўбочкі селядцоў, паўскрынкі мыла й некалькі дзесяткаў пачак запалак, адным словам, рэчы, на якія ў тым часе адчуваўся недахоп. Ня гледзячы на безуладзьдзе, местачкоўцы дружна ўзяліся за адшуканьне вінавайцаў. Неадкладна быў зарганізаваны камітэт, які ўзяў справу ў свае рукі. У міжчасе неасьцярожны Яньця пачаў прадаваць селядцы, выменьваючы іх у большасьці на яйкі. Калі азброеныя дубальтоўкай, да якой праўдападобна ня было патронаў, віламі й папросту калом выламаным з плоту, камітэтчыкі зьявіліся да Яньці, той калоцячыся, як асінавы ліст, прызнаўся ўва ўсім і выявіў сваіх супольнікаў. Тады сябры камітэту арыштавалі яго й прывялі ў «кутузку», ці інакш — арыштанскую, якая знайходзілася пры воласьці. Казалі, што ў часе падарожжа не абышлося й бяз таўхялёў, і што за «канвоем» увесь час бегла пашкадаваная Лэйка пераконваючы ўсіх, што Яньця хацеў асіраціць яе дзетак.

Даставіўшы арыштаванага ў арыштанскую, камітэт у тым-жа складзе падаўся ў вёску дзе жылі супольнікі Яньці. Але іх ня было дома, а матка заявіла, што яны паехалі ў Полацак і сталіся там ужо напэўна вялікімі людзьмі. Між іншым некалькі тыдняў пазьней, гэтыя «вялікія людзі» ўламаліся ў сьвіронак свайго суседа, забіраючы адтуль кілбасы, сала й пшаніцу. У гэтым часе ў воласьці ўжо сядзеў рэвалюцыйны камісар - расеяц. Ён прысудзіў бедакоў на сьмерць і пастраляў іх побач глыбоцкага шляху недалёка ад воласьці.

На другі дзень пасьля арышту Яньці, камітэт дабраўшы да свайго складу яшчэ некалькі больш паважных местачкоўцаў, прыступіў да суду над злодзеем. За нейкае паўгадзіны быў вынесены кароткі прысуд, — даць вінаватаму 25 розгаў, ды ў дадатку ён павінен аплаціць Лэйцы прычыненыя ёй страты.

Наступнага ранку валасны вартаўнік, а ў гэтым выпадку ён-жа й выканаўца прысуду, вынес і паставіў на пляцы перад валасной управай даволі доўгую, але ня шырокую лаўку, і палажыў пры ёй пук лазовых дубцоў. Навакол гэтага месца «экзэкуцыі» сабралася больш за паўсотні цікавых местачкоўцаў, ды таксама жонка засуджанага — Фэйга з дзецьмі. Хутка прывялі й Яньцю й загадалі яму легчы на лаўку на накрытае месца прызначанае для выкананьня прысуду. Двух маладзейшых «прадстаўнікоў справядлівасьці» селі: — адзін на ногі, а другі на шыю ахвяры. Наступна адзін з сяброў суду прачытаў па складах прысуд, ды таксама дадатак да яго, аб тым, што сьледкаваць за справядлівым выкананьнем яго, вызначаецца стары Ігнат Гірэй. Трэба зазначыць, што Ігнат паходзіў са старой татарскай шляхты і, каб гэта падкрэсьліць, казаў пасьля кожных пару слоў нherведама дзеля чаго прымаўку «жэ».

Ігнат з павагай пакланіўся ўсім прысутным, пагасіў і выбіў аб ножку лаўкі сваю

люльку й падняўшы палец у гору крыкнуў:

— Жэ добра краў, раз!

Такога самага веку як і Ігнат, вартаўнік Грындзюшка, сьцебануў без асаблівай на гэта ахвоты першы раз.

— Жэ ня ўмеў хаваць і мяняў селядцы на яйкі, два!

Грындзюшка сьцебануў крыху мацней, але гэта, здаецца, ня зусім здаваляла Ігната й дзеля гэтага ён далічыўшы да пяці, ізноў падняў палец і злосна крыкнуў:

— Жэ я памыліўся! Жэ на круцяля! *)

Пачуўшы гэта Фэйга й дзеці паднялі такі несамавіты гвалт, што аж вараньнё на бярозах недалёкага гасьцінца пачало пералятаць з дрва на дрэва. Ігнат выняў з кішэні хусьцінку й выцершы ёю нос і чамусьці вочы, ізноў падняў палец. Усе адразу супакоіліся.

— Жэ дзеткі малыя плачуць, пусьціце яго дадому й няхай зь ім ягоны жыдоўскі Бог разьлічваецца, бо наш пан Езус яму-б напэўна даравау!

Ня трэба дадаваць, што з такога разьвязаньня справы былі здаволеныя ўсе прысутныя, а найбольш сам Яньця з сям'ёю.

Ня гледзячы на гэтую даволі няпрыемную справу, ніхто зь местачкоўцаў доўга яе не памятаў, відавочна па прыроднай дабраце нашага народу. Усе аб гэтым забыліся, так што ў хуткім часе Яньця ўдала вёў свае аснаўныя й пабочныя заняткі. Дзеля таго, што гэтыя заняткі выглядалі даволі цікава, дык я хачу аб іх крыху расказаць.

Мне яшчэ й сёньня прыпамінаецца «цырульня» Яньці. Пачаў я яе наведваць маючы гадоў 14-15, гэта ў тым часе, калі маці перастала ўжываць для стрыжкі мае галавы даволі тупыя ножніцы й кавалак грэбеня. Часамі гэтае ўпрыгожваньне выглядала як-бы ў дробненькія сходкі, але хто там клапаціўся такімі драбніцамі. Аднак усё мае свой канец. Так і мне прыйшоў час, калі маці сказала:

— Усё табе ня ўладзіш, вось маеш 10 грошаў і ідзі да Яньці!

Штопраўда ў мястэчку былі яшчэ дзьве «сапраўдныя цырульні», — першая Я. Галэцкага на Дзісьненскай вуліцы, а другая Пётры Храла ў будынку мураванкі, але яны мне былі не па кішэні.

З усяе Яньцявае цырульні, ці дакладней яе абсталяваньня, вызначалася найбольш хіба шыльда. А шыльда гэтая была сапраўды адмысловая. Яна ня вісела на звычайна прызначаным на гэта месцы над дзьвярыма, але стаяла на высокім ганку абапёртая аб сьцяну. Гэта напэўна дзеля таго, што там фактычна ніякай цырульні ня было. Усе-ж апэрацыі зьвязаныя са стрыжкаю валасоў і брыцьцём праводзіліся ў пакойчыку, які быў адначасна й кухняй і прымяшчэньнем дзе спала некалькі Яньцевых дзяцей, і месцам куды часамі бяз асаблівых на гэта перашкодаў заходзілі куры й чорна-бурая з агромністымі рагамі каза. Вось-жа шыльда стаяла на ганку абапёртая аб сьцяну. Ах, што гэта была за шыльда! Яна аддаўна прыцягвала маю дзіцячую ўвагу, можа й ня менш чым знакамітая лужына. Дзеля таго, што шыльда была стаячая, яна мела памеры каля 2-ох м. увышыню й каля ¾ м. ушырыню. На ёй быў намаляваны панок з тварам падобным ні то на Чарлі Чапліна, ні то на аднаго з рускіх цароў, але на каго ў сапраўднасьці цяжка сказаць. Сядзеў гэты панок на высокім, падобным да дзіцячага, крэсьле й быў захутаны ў белую посьцілку ад шыі аж да пятаў. Побач яго стаяў іншы, як дзьве

*) На крцяля, — пачынаць штосьці спачатку.

кроплі вады падобны тварам на першага, але апрануты ў чорны фрак з белай мушкай пад барадой і ў высачэзным капялюшы. У правай руцэ трымаў ён ножніцы такой вялічыні, якімі сьмела можна было-б падразаць зарасьнікі на запушчанай сенажаці. Правая рука панка, у якой ён трымаў ножніцы, была нармальнай даўжыні, але левая чамусьці сягала ніжэй каленяў. Пачынаючы ад ягоных шчокаў, у бакі разыходзіліся напісы: «Стрїжка Волосов», а здругога боку лацінкай «Stzyc i Goliць». Гэты апошні мясцовыя жартаўнікі перакручвалі ня ў вельмі далікатны спосаб, але гэта заставім на іх сумленьні.

Звычайна кожны вечар Яньця ўносіў гэтую шыльду ў сенцы, дзе заўсёды ляжала некалькі зьмеценых дзеркачоў, старая лапата ды іншая дрэнь, а часамі ўхітралася заначаваць і каза. Я кажу «ўхітралася» дзеля таго, што калі яе заўважыў там, хтосьці зь Яньцевай сям'і, або ня дай Божа, ён сам, тады на яе сыпаліся страшныя праклёны й яна ганебна выганялася навонкі ня гледзечы на надвор'е. Але здаралася, што Яньця занядбоўваў свае абавязкі й шыльда заставалася навонкі. Здаралася гэта найчасьцей у кірмашныя дні, — у аўторкі, калі ягоныя кліенты й даўжнікі запрашалі яго на чарку - другую барышоў. Пасьля гэтых барышоў Яньця забываўся на свае абавязкі, а толькі сьпяваў дрыжачым, падобным да казьлінага, голасам, — «Кап я мел златыя горы», або іншую, «Хаз-Булат удалой». Звычайна на гэтых уступах песьні й канчаліся й ніхто ніколі не даведаўся, што-б было калі-б Яньця меў залатыя горы, або сталася з тым загадковым Хаз-Булатам. Скончыўшы свае вакальныя выступленьні ён пачынаў анегдоты пра папоў, ксяндзоў і рабінаў і апавядаў іх кожнаму, хто хацеў яго слухаць, да таго часу, пакуль Фэйга не патурыла яго дамоў.

У такіх выпадках шыльда заставалася на ганку й нармальна пераходзіла ў карыстаньне акалічнай дзетвары. Малыя самавольнікі сьпярша з урачыстымі сьпевамі насілі яе кругом рынку, а пазьней улякоўвалі яе не заўсёды адпаведным для яе месцы, напрыклад у чыімсьці сьвінушніку. Назаўтра Фэйга, зрэштай без вялікай злосьці, але даволі зычным голасам выгалошвала: «цорт яго бяры майго п'яніцу, няхай цяпер пасукае свая вівеска». І бедны Яньця адпраўляўся на пошукі гэтай «віеска» й знайшоўшы яе, хіба з паўсотні разоў суліў «халера на іх галава» пад адрысам тых, што зьнясьлі яе. Прывёўшы шыльду ў такі-сякі парадак урачыста ставіў яе на належнае ёй месца.

А цяпер крыху аб самым стрыжэньні. Гэтая цырымонія адбывалася зазвычай у сыботы вечарам пасьля шабасу й ў нядзелі перад паўднём. Яньця меў свае урадавыя гадзіны й ў іншыя дні тыдня, але найбольшы наплыў кліентаў быў якраз у сыботы й нядзелі. Я, між іншым, хадзіў да яго найчасьцей у сыботы. Яньця ў ярмолцы на галаве, якую ён называў «шапацкес» і акрыты доўгай посьцілкай у папярэчныя чорныя й шэрыя пасы, барматаў сабе нешта пад нос, ківаючыся ўзад і ўперад. Гэта ён у такі спосаб закончваў свае пасьляшабасовыя малітвы, час-адчасу кідаючы ў бок чакаючых кліентаў рэплікі, напрыклад: «Як заўтра будзе добрая пагода, то ў панядзелак людзі пачнуць жаць жыта й ў панядзелак таксама будзе добры кірмаш у Гарманавічах». Якія адносіны меў пачатак жніва да кірмашу ў Гарманавічах застаецца для мяне няясным і да сёньня. Але я дагадваюся, што гэтыя кароткія размоўкі адбываліся каб даць кліентам нейкую разрыўку й скараціць ім час чаканьня.

Пасьля заканчэньня аснаўных малітваў, Яньця ўсё яшчэ нешта бармочучы ськівдаў з сябе посьцілку й шапачкес ды ківаў пальцам на аднаго з прысутных: Сядай!

## Некалькі вершаў — АЛЕСЯ БАРСКАГА



Лясы — душа маёй краіны.
Жыве ў лясах мая надзея.
О лес, ты так, як бацька сыну,
мне ў сэрцах светлых мар навеяў.
Я, член сям'і адвечнай пушчы,
знаходжу сваё шчасце ў лесе,
дзе шчыры смех вачэй не плюшчыць,
дзе лес набрак ад чулых песень.
Я чую, крочаць на паляны
плямёны сцежкаю адвечнай,
і я з натоўпам крывічанаў
іду за бор, на сход, на вечэ.
Спакой цалуецца з трывогай,
зышліся: ўчора, заўтра, сёння,
гады, і людзі, і дарогі,
паціснулі сабе далоні.

### КВЕТКІ

Я кветкі дзяўчыне з расою прыношу,
У кропельках плываюць зорак праменні.
А сэрца п'янее настроем харошым,
Пяшчотнаю ласкай напоўнены жмені.

У рукі зноў возьме букецік яскравы,
У росах замочыць і вусны, і косы,
Падзякуе шчыра мне й зоркам ласкавым,
Я дзякаваць буду шчасліваму лёсу.

Прынёс я расхіленым вуснам падарак.
Цалую без зроку, без слоў і без гукаў.
Спляліся з табою надзеі і мары,
І кветкі, і росы, і вусны, і рукі.

---

Гляджу я небу пад сукенку,
аж шапка на зямлю ўпала,
і не магу я надзівіцца,
і не магу навесяліцца.
Гляджу, гляджу,
і ўсё мне мала;
яно прыкрыла стужкай белай —
дарогай млечнай — частку цела,
але і так не мала відна
дэталяў гожых і ўстыдных.
Гляджу я небу пад сукенку,
нібы мурашка пад панекку,
калі яна ў ліпнёвы ранак
выйдзе на луг, над рэчкай стане.
Эх любата, ачараванне!
І што ж ты варты, чалавеча,
калі не піў вады з крыніцы,
калі ў ліпнёвы цёплы вечар
з нябёсаў не сцягаў спадніцы.



У тваім каханні я не бачу болю,
і таму не будзе тваё шчасце поўным;
смутак у каханні — элемент галоўны;
у тваім каханні я не бачу болю,
без якога шчасця не было ніколі,
боль і радасць мусяць спалучыцца кроўна;
у тваім каханні я не бачу болю —
і таму не будзе тваё шчасце поўным.

## ТЫ НЕДЗЕ ЁСЦЬ

Хоць для мяне ты неабдымная,
Хоць для мяне ты недаступная,
Пайду сцяжынкамі інтымнымі,
Шукаць цябе вачыма рупнымі.

І можа дзесці за пралескамі,
І за ракою, за шырокаю,
Цябе знайду я белавежскую,
Далёкую ды сінявокую.

Я веру, што ты мне прызначана,
Дык не спынюся я ў пошуках.
Прыду. парою не назначанай,
З надзеяй — краскаю ў кошыку.

Хоць для мяне ты незнядомая,
Мае інстынкты падарожныя,
Табе — шляхамі незнаёмымі
Нясуць каханне пераможнае.



## ПЕСНЯ РАССТАННЯ

Дык не забудзь спатканняў, дарагая,
Рытм сэрца ў поціску рукі прымі.
Няхай гарыць, ніколі не згарае
Аб першых пацалунках успамін!

Зноў зацвітуць, асыплюцца чарэшні,
Адплачуць, зноў, асенніх скрыпак гукі;
І адзвініць зіма ў белай песні —
Ты безупынна будзеш у сэрцы блукаць.

Я ведаю што ты мне ліст напішаш,
Скупы на словы, ды багаты зместам.
Люблю сімфонію вячэрняй цішы,
Якой уторыць ліст сваім шэлестам.

Дык не забудзь спатканняў, дарагая!
Рытм сэрца ў поціску рукі прымі.
Няхай гарыць, ніколі не згарае
Аб першых пацалунках успамін!



Тут больш лісця, чым неба і зямлі,
лісцё павісла хісткім мостам.
Па ім іду я, сын далін,
я, пушчы раб, ды і апостал.
Не трэба слоў —
яны цяжкі багаж,
ні роздуму, ні розуму, развагі.
Калі хрыбта лісця трымаецца нага,
кабура сэрца поўная адвагай.
Вось тут рой птушак
моліцца вясне,
між іх я сеў, спяваю гімны, оды —
дзе песня ёсць, там зла канец
і там пачатак крыл свабоды.
Не хочацца вяртацца да людзей
у свет заяў, дакладаў, дырэктыў;
больш не магу
ні слухаць, ні глядзець,
як вучаць шчасця рыжыя каты.
Каб толькі ліст астаўся пад нагой,
загоіць раны ён, адсуне здзекі,
распаліць ачышчальны ён агонь,
цябе учыніць, песня, чалавекам.



Пры гэтым зазвычай вынікалі кароткія спрэчкі, што да чаргі, але яны хутка палагоджваліся Яньцем. Скорагаворкай і тоненькім голасам ён казаў: ну й што ты із пад сябе думаеш? Ягоны бацька яшчэ ў той аўторак прасіў мяне, каб я яго падстрыг бяз чаргі, ну-у-у! І гэтае «ну-у-у» было такім пераконлівым, што апанэнты ад слова згаджаліся.

Калі кандыдат да ўпрыгожаньня ўзьбіраўся на высачэзнае, падобнае да намаляванага на шыльдзе крэсла, Яньця ахінаў яго ня першай сьвежасьці посьцілкай і кораценька пытаўся: пад польку, ці пад ярша? Як я пазьней пераканаўся гэтае пытаньне было толькі «про форма», бо незалежна ад адказу галава Яньцевай «ахвяры», пасьля сканчэньня даволі такі балючай «апэрацыі» выглядала ўсёроўна ня шмат лепш, чым пад папулярны «гаршчок».

У часе стрыжэньня Яньця забаўляў сваіх кліентаў размоўкамі, як: Уй, што за галава! Ды гэта-ж міністэрская галава, каб мае дзеткі здаровы былі. Цікава чаго ты з такой галавой сядзіш у такая задрыпаная мястэчка? Каб цябе твой бацька выслаў хоць-бы ў Вільню. Там-бы ты быў праўдзівым чалавекам. А каб у дадатку ды ён на тваю галаву яшчэ купіў шапку ад Янкеля Каплана! Уй, што тады было-б! Тады я мог-бы высватаць для цябе дзяўчыну. Ууй, што за дзяўчына!!! Тут Яньця рабіў кісла-салодкую міну й на некалькі сэкундаў заплюшчваў вочы. Трэба зазначыць, што гаворачы ня прошаны аб дзяўчатах, ён заўсёды меў на ўвазе сясьцёр Воўкі-Пажарніка. — Што за дзяўчына, прадаўжаў ён, і памаленьку адчыняў адно вока й хітра ім падміргваў. А пасаг! Ці ты ведаеш, які яна мае пасаг!? Гэта-ж аж чатыры пятухі, а як засьпяваюць досьвіткамі, дык не раўнуючы, як салаўі, або канарэйкі. Ну, чаго ты паказеліў вочы? Ня тыя канарэйкі, што ў цябе часамі за каўняром сядзяць, а праўдзівыя. А сем пар няпарных шавецкіх капылоў, што засталіся ад старога Баравіка, гэта хаханькі, ці што!? Ну, і чаго ты маўчыш? Ух,, ты пень. Я толькі думаў, што ў цябе разумная галава. А ты маеш толькі вешалку на шапку, дый то старую, бо на новую твой бацька шкадуе грошы.

На гэтым Яньця канчаў свой маналёг, дый стрыжэньне падбягала да канца. Наступна ён сьцягваў з свайго кліента посьцілку, хапаў са століка, што стаяў побач нейкую пляшачку й трушком падаваўся да качарэжніка, дзе стаяла вядро з вадою. Вярнуўшыся ён пырскаў з гэтай пляшачкі на галаву й твар кліента й калі той спрабаваў пратэставаць, Яньця абражаным голасам адказваў: «Дурны, гэта-ж духа, самая сапраўдная духа, дзікалон, — ён ня пахне, дый годзе. Уй, твая галава толькі выглядае на разумную! Як-жа можа дзікалон пахнуць? Скажыце людзі добрыя гэтаму во паўдурку. Ці гэта табе самагонка, ці карасіна? Уй, ты цемната! На гэтым звыкла закончвалася Яньцева тырада й цырымонія стрыжэньня. Яньця падстаўляў далонь зложаную «начовачкамі» й ў яе падалі зазвычай медзякі, але ніколі ня больш 20-ці грошаў. Ніколі ня лічачы, ён пасьпешна іх хаваў у кішэню й зноўківаў пальцам на наступнага: Сядай!

Можа каму будзе няясным чаму я называю Яньцевых кліентаў ахвярамі. Напэўна такіх недарэчных пытаньняў не задаваў-бы той, хто хоць раз пабываў у ягоных руках. Такія мукі можна было-б параўняць хіба з візытамі ў зубнога лекара пачатку гэтага стагодзьдзя, калі абязбольваючыя сродкі яшчэ ня існавалі й калі зубы вырываліся проста «на халодна». На пытаньне чаму-ж аднак людзі ішлі да Яньці, адказ вельмі просты: — ня дарослыя, а падшыванцы, якія выпрасілі ў бацькоў гэтых некалькі медзякоў, і якімі задавальняўся Яньця, бо ў іншых трэба

было плаціць штонайменш 50 грошаў.

Часамі здаралася, што якраз у часе стрыжэньня зьяўляўся ахвотнік купіць або толькі патаргаваць шапку. Тады Яньця не гаворачы ні слова таму каго ён у гэтым часе стрыг, выходзіў з кліентам на шапку ў суседнюю каморку. Адтуль па нейкім часе пачыналі раздавацца енкі й заклінаньні Яньці: — Каб я жыў, ты мне даеш за такую красату толькі два злоты?! Ці ты ведаеш, што такое два злоты? За гэтую цану ня купіш нават і пуда жыта, а тут такая красата! Адзін тавар на гэтую шапку каштаваў больш за два злоты. Ты пэўна хочаш, каб мае дзеткі паўміралі з голаду? Калі спрэчка аб цане й прыгажосьці шапкі зацягвалася, тады й той каго Яньця ня скончыў стрыгчы, таксама сьпешна падаваўся ў каморку. Цяпер ужо чуваць было тры галасы: адзін заяўляў, што за сваіх 20 грошаў ён падстрыжэцца ў любым месцы, другі суліў 2 злоты й ні граша больш і наканец дрыжача-пісклівы дыскант Яньці, які выказваў свае доказы й пераканаеньні. Гэта прадаўжалася яшчэ хвілін 10, пасьля чаго ўсе трое шчасьлівыя й здаволеныя паказваліся на парозе каморкі й працэдура стрыжэньня прадаўжалася далей.

І вось ня гледзечы на трохі зацемненую прошласьць Яньці, усе яго любілі, бо нават ягоныя праклёны былі ня злосныя, а толькі, так сказаць, «па сямейнаму» й ён на нікога ня крыўдзіўся, нават на Грындзюшку, які сьцёбаў яго ў часе «слабоды», а тымбольш на старога Гірэя, які гэтыя розгі лічыў. Наадварот, часьцяком у перадвячорныя нядзельныя гадзіны можна было іх бачыць, як яны крыху пасэймікаваўшыся падаваліся ў бок піўнушкі Ніны Лукасюк, ці як яе ў скарочаньні называлі местачкоўцы ад імя ўласьніцы «да Нінкі». Гэтая ведамая ўстанова афіцыяльнай мовай называлася «Півярня й Ядлодайня», што й было выпісана над яе ўваходам даволі вялікімі, хоць і крываватымі літарамі. Гэтая ўстанова была вельмі папулярнаю сярод жыхароў мястэчка, асабліва сярод тых, у якіх кішэні ня вельмі набухалі ад грошай. У сапраўднасьці там ніхто й ня думаў харчавацца, але затое там заўсёды можна было атрымаць на закуску салёных гуркоў, кіслай капусты, або нават і селядца, дый яшчэ й марынаванага. Ведама, што гэтымі прысмакамі ніхто не закусваў толькі піва, але штосьці мацнейшае, чаго ў сапраўднасьці Нінка ня мела права прадаваць у сваёй півярні. Але, чаго ня робіцца для сваіх сталых кліентаў, часта паўтарала яна, забываючыся штопраўда пры гэтым дадаць, што гэта за якога паўзлота ці нават і больш, далічанага да рахунку.

Для цікавасьці трэба зазначыць, што Яньця належачы да выбранага народу, прадстаўнікі якога ня чуюць смаку ў гарэлцы, не падтрымоўваў гэтай агульнай звычкі, а наадварот, пры кожнай аказыі ніколі не адмаўляўся ад чаркі, дый часьцяком бываў яшчэ й сам ініцыятарам невялічкіх выпівак. Трэба ведаць, што ён у мястэчку быў не адзінокі, бо з-пад гэтага агульнага правіла выламваўся яшчэ адзін ягоны адзінаверац, — капэльмайстар мясцовай жыдоўскай капэлі Бэньямін Абрампальскі называны папросту Бэйнусам. Ведама, што падобныя недахопы іх характараў не дадавалі ім павагі сярод іншых сяброў кагалу - парафіі, так што ў выніку гэтага ў сынагозе ім быў, падобна, адведзены асобны куток. У тым-жа кутку маліўся й яшчэ адзін жыхар мястэчка — Бэрка Шэрман,

Як я ўжо ўспамінаў, Яньця выконваў у местачковым жыцьці аж тры функцыі, але вось гэтая трэйцяя — часаньне воўны, была так сказаць як бы пабочнай, бо галоўную ролю ў ёй адыгрывала жонка Фэйга й дзеці. Сам-жа Яньця быў выкліканы ў прыбудоўку, дзе стаялі машыны, толькі ў выпадку якой аварыі. Вось тады

й разьлягаўся прарэзьлівы лямант Фэйгі, які можна было пачуць на другім баку рынку: — Янкель!!! Уй, каб ты згарэў ад мая галава! Ідзі папраў машыну, гультаіна ты цортава. Тут Яньця пакорна кідаў свой занятак і хуценька пёрся на ратунак. Горш было тады, калі паміж Фэйгай і кліентамі паўставалі непаразуменьні фінансавага характару, — з аплатамі за часаньне. Тады Фэйга, як віхор урывалася ў Яньцеву майстэрню, й насуліўшы яму трасцаў, халераў і скулаў, крычала: — Чорт ты пляшывы, (Яньця меў на галаве ня лысіну, але нейкія пляхі) ідзі зрабі парадак з гэтым дурням, бо ён ужо зьеў маё сэрца. Яньця, не гаворачы ані слова, трушком выбягаў усьлед за Фэйгай і хутка з прыбудоўкі раздаваўся яго нэрвовапіскливы, але з прымірэнчымі ноткамі голас: — Ну Янка, (трэба зазначыць, што для Яньці ўсе акалічныя сяляне былі Янкамі або Антосямі, што аднак не перашкаджала яму памятаць усіх сваіх даўжнікоў) ты ня хочаш плаціць аднаго марнага злотага за дзьве такія прыгожыя куклы *) воўны? Уй-вай! Ці ты часамі ня здурэў? Ня хочаш заплаціць залатоўкі, ну й добра. Дай мне сёньня толькі 80 грошаў, а ўвосень перакінеш які кошычак бульбы. Селянін найчасьцей з ахвотай згаджаўся, але пазьней горка шкадаваў, бо ў Яньцеў «кошычак» уваходзіла каля чатырох нармальных кашоў бульбы.

Як я ўжо зазначыў раней, местачкоўцы любілі Яньцю ня гледзячы на ягоныя дробныя ашуканствы, якіх ён дапушчаўся ў часе выконваньня сваіх прафэсыйных абавязкаў. Дый наагул падобныя пачуцьці выяўляліся й да іншых ягоных адзінаверцаў, для якіх местачкоўцы праяўлялі найбольшую талеранцыю, якая ўжо была відаць у крыві нашага народу. Ведама-ж, часамі здараліся дробныя непаразуменьні й сутычкі, калі нават адзін аднаму падбіў вока, або расквасіў нос, але гэтыя сутычкі ніколі не пашыраліся на шырэйшую скалю й хутка забываліся.

Трэба зазначыць, што стараньні польскай адміністрацыі, каб пасеяць нейкую варожасьць між беларусамі й жыдамі ня мелі вялікага посьпеху. Нават лёзунг: «свуй до свэго, по свое» або «не купуй у жыда» ніяк не прывіваліся.

Недалёкай Яньцевай суседкай была старая Бляхарыха, якая была таксама папулярнай сярод жыхароў мястэчка. Ніхто хіба ня ведаў сапраўднага яе прозьвішча, а называлі яе Бляхарыхай, як ня трудна дагадацца, з прычыны занятку яе мужа, старога бляхара, які ўмела нітаваў, або нават рабіў новыя з усялякіх прыпадковых кавалкаў бляхі — вёдры, дайн'цы й іншае дамовае судзьдзё. Здавалася-б, што яго папулярнасьць павінна была быць высокай прынамсі сярод гаспадыняў, але дзе там! Яна выглядала вельмі мізэрнай ў параўнаньні з папулярнасьцю ягонае жонкі. Бляхарыха па-першае ведала ўсе мясцовыя плёткі й навіны, па-другое, лекавала ад розных хваробаў і немачаў усіх тых, хто ня меў даверу да дактароў, аптэкаў ды шпіталяў, або ня меў на іх грошай. Яна загаварвала розныя недамаганьні, як ад благога вока, ад уроку, ад перапуду, ад рожы, ад укусу зьмяі ды шмат ад чаго іншага. Яна лекавала шматлікія людзкія недамаганьні, толькі што паводле яе тэрміналёгіі яны называліся зусім інакш, чым іх называлі «гэтыя скуралупы дактары».

Памятаю, як яна лекавала маю цётку, калі я яшчэ быў дзесяцігадовым хлапцом. Гэтая мая цётка, між іншым, усё сваё жыцьцё скардзілася на ўсялякія магчымыя й немагчымыя хваробы. Дык вось Бляхарыха зрабіўшы адпаведны моўны ўступ у якім зганіла ўсе гэтыя дакторскія штучкі, якія добрыя толькі да таго часу, пакуль

*) Кукла — скручаная часаная воўна, каб яе лягчэй было прычапіць да прасьніцы.

хворы мае грошы й г. д., прыступіла да лекаваньня. Пашаптаўшы нешта сабе пад нос і плюнуўшы на ўсе чатыры бокі, яна выцягнула з кішэні свае шырэзнай спадніцы пляшачку з «загаворанай вадой» і загадала хворай напіцца гэтай вады тры разы па тры глыткі, а пазьней ізноў пачала нешта мармытаць сабе пад носам. На заканчэньне лекаваньня яна сказала: — Дык вось галубка, я скажу табе чыстую праўду, — ты калі не памрэш, то напэўна будзеш здаровая, хоць часамі Бог яго ведае, бо бывае й так, што людзі мучацца да самай сьмерці. Ня трэба дадаваць, што падобныя Бляхарышыны «дыягнозы» спраўджаліся заўсёды на 100%.

Яна лячыла ў першую чаргу гояў,*) бо сярод сваіх адзінаверцаў яна цешылася папулярнасьцю зусім з іншых прычынаў, а менавіта: на жыдоўскіх вясельлях яна бяззаменна выконвала ролю, як-бы сказаць, старшай свацьці, хоць гэтая роля крыху розьнілася ад ролі свацьці ў беларусаў. Па-першае, гэтая функцыя была платнай, а па-другое, што гэтая свацьця не абавязкава павінна была належаць да радні маладых, або нават быць запрошанай на вясельле як госьць.

Паводле жыдоўскіх рэлігійных законаў вянчаньне заўсёды павінна было адбывацца на скрыжаваньні дарог. Ведама, што цяпер гэты звычай ужо не датрымоўваецца, але больш, як паўвеку таму, ніхто ня мог нават і падумаць, каб яго зламаць. Дык вось у Лужках гэтыя вянчаньні адбываліся на Млынскай вуліцы недалёка ад сынагогаў і ў тым месцы, дзе яна крыжавалася з Жынгялёвай вулкай, пераходзячы ў бязыменны завулак, які вёў да жыдоўскае школы й банку. Пасьля вянчаньня, маладыя й госьці, папярэджваныя капэляй Бэйнуса адпраўляліся зазвычай пехатой у памешканьне, дзе адбывалася вясельная бяседа. І вось гэты парадны паход заўсёды ўзгалаўляла Бляхарыха. Пад нейкую мэлёдыю, падобную да хуткай «полькі», яна вытанцоўвала са зьдзіўляючай, з пагляду на яе век, жвавасьцю й увесь час сьпявала нейкія свае прыпеўкі. Прыбыўшы на месца, яна даглядала, каб усе госьці былі пасаджаныя на месцах адпавядаючых становішчам, якія яны займалі ў герархіі кагалу. У часе-ж самой бяседы, яна даглядала за агульным парадкам. Трэба дадаць, што мэлёдыя, пад якую вытанцоўвала Бляхарыха, трывала ўвайшла ў рэпэртуары мясцовых, ды нават і далейшых, музыкаў пад назовам «Бляхарышынай полькі».

Гаворачы аб зьняважлівых адносінах сяброў кагалу да Яньці й Бэйнуса з прычыны асобнага кутка ў сынагозе, я ўспамінаў і аб Бэрку Шэрману, празваным дзеля белых, як сьнег валасоў і барады «Беламордым». Ягонае пакараньне вынікала зусім з іншых прычынаў, а менавіта: паводле жыдоўскіх законаў, кожны жыд, а ў першую чаргу асобы мужчынскага полу павінны былі абавязкава жаніцца. Састарэцца й памерці нежанатым сьцягвала на галаву «недаверка» апрача пакараньня пасьля сьмерці, яшчэ й пэўныя аграніченьні за жыцьця. А вось Бэрка не хацеў жаніцца, дый годзі. Ня можна сказаць, каб Бэрка быў няверуючым, ці меў нейкую псыхічную адразу да жанчын. Наадварот, у адпаведнай кампаніі ён любіў пагаварыць пра прыгожых жанчын ці дзяўчат. Ня можна сказаць, што й выгляду быў ён такога, што ад яго старaніліся кандыдаткі да замужжа. Нават і пад старасьць ён выглядаў даволі прыстойна. Асабліва ягоная, наўсуперак усім жыдоўскім звычкам барада, якая была заўсёды чыстай, дакладна падстрыжанай і расчасанай — валасок-да-валаска. Ня можна нават было й падумаць, што Бэрка ня жэніцца па прычыне незаможнасьці, бо падобна ў маладых гадох ён быў да-

---

*) Гой, — пажыдоўску хрысьціянін.

волі салідным гандляром лесу, і пад старасьць жыў з адложаных капіталаў. Калі ў яго пыталіся, чаму ён ня жэніцца, дык ён адказваў: — Каго я хачу, то яна мяне ня хоча, а якая мяне хоча, дык па якога чорта яна мне?

далей будзе.

---

Уладзімер Глыбінны

# ПАД ЛЕБЯДЗІНЫМ ЗНАКАМ

## Аповесьць пра Максіма Багдановіча

## 1. ТАМ, ДЗЕ ПЛЫВЕ ВЯЛЬЛЯ

### 1

1911 год... Другая палова чэрвеня... Цягнік у Вільню ўжо імчаўся па беларускіх прасторах. Паабапал вагонаў імпэтна прабягалі зялёныя мурожныя лугі, маладыя сасоньнікі на валуновых узгорках, сінявата-зялёныя пушчы. Вочы маладога чалавека прагна ўглядаліся ў родны краявід. “Вось яна, зямля беларуская, крыніца роднага слова, сустрэчы з якою я смагнуў праз усё маё жыцьцё й заўсёды нешта было на перашкодзе, — езьдзіў у розныя іншыя краіны, пазнаў Прыуральле й Волгу, а да родных загонаў толькі цяпер выбраўся. Скарыстаю лета, каб запазнацца з краем і мовай маіх дзядоў. Цяпер у перапынку паміж гімназіяй і ліцэем якраз добры час і зрабіць гэта. Яшчэ сярэдзіна чэрвеня, добры час наперадзе. Вацлаў Ластоўскі пісаў мне, што Антон Луцкевіч ужо дамовіўся са сваім дзядзькам адносна майго ўстаткаваньня ў яго фальварку. Ды зрэшты й сам Антон ужо пісаў, запрашаючы мяне на летаваньне ў Ракуцёўшчыну. Але што гэта за фальварак і як ён выглядае, аднаму толькі Богу вядома, бо нічога яны аб ім не пісалі. Але такой бяды, важна, што на роднай зямлі ды сярод сваіх людзей, для якіх роднае слова — хлеб штодзённы, без яго яны ні дня ня жывуць...,” — думаў Максім, углядаючыся праз вокны вагона ў прыгожыя краявіды. Яшчэ перад поўным спынкам, вагонны калідор напоўніўся галасамі й гаворкамі тых, хто злазіў. А насустрач ім на прыпынку ўліваўся новы натоўп пасажыраў і поўніў маладымі галасамі вагонную прастору. Максім прагна лавіў кажнае слова тутэйшых людзей і стараўся дайсьці да сэнсу кажнага сказу. Толькі зрэдку ў гэтую гаворку прымешваўся расейскі ці польскі выраз, і Максім адразу яго вылучаў, як нешта чужое для гэтага народу. “Але як добра народ захаваў мову пад чужым панаваньнем, — думаў ён далей. — Як прыгожа й лёгка ён выказваецца па-сваёму. А гэта-ж будзе асновай для будучага адраджэньня”.

Неўзабаве цягнік уехаў у вялікую станцыю. Перад вачыма мільгнула шыльда з назовам — Вільня. Пярэсты людзкі натоўп напаўняў вакзальную пляцоўку. Хутка пачуліся выкрыкі апазнаньня спа-

тыкаючых, скрозь бачны былі абдымкі й пацалункі. Максім пачуваў сябе сіратліва на фоне гэтых праяваў людскоe спагады. Ён павольна сышоў з вагонных прыступкаў і, нясучы ў правай руцэ свой чамаданчык, падаўся проста ў вакзальную залю. Няпэўны, ці яго хто сустрэне, прайшоў пачакальню, напоўненую гулам сотняў людзей. І ці пазнаюць яго адразу ў гэтым натоўпе? Праўда, яго ня цяжка было вылучыць паводля ягонага гімназійнага гарнітуру, усяго чорнага з высокім стаячым каўняром, ды ў чорных камашах. Гэтакім і быў апісаны ён у лісьце да Ластоўскага. Але-ж ужо надта маладым выдаваўся яго круглаваты твар з шэра-блакітнымі вачыма ды цёмна-каштанавай шавялюрай. Праўда, высокі й стройны, ён мог міжвольна прыцягнуць увагу да свайго адухоўленага бялявага твару й сьвідруючага пагляду вачэй. Аднак, не пасьпеў ён зрабіць колькі крокаў па глянцаватай падлозе пачакальні, як заўважыў на сабе пагляд чарнявага, так гадоў пад трыццаць, у акулярах ды па-летняму апранутага, сярэдняга росту чалавека. Той адразу-ж і скіраваўся да яго.

— Багдановіч? — было першым словам незнаёмага.

— Так! А вы будзеце панам Вацлавам Ластоўскім? — здагадліва запытаўся Максім.

— Той самы Ластоўскі, што меў гонар з вашэцяй ліставацца ад нейкага часу.

І яны кінуліся ў абдымкі, пацалавалі адзін аднаго колькі разоў, затым доўга ціснулі адзін другому рукі. Вацлаў памкнуўся паднесьці чамаданчык, але госьць рашуча запярэчыў гэтаму. Вышлі на панадворак. Пачатак лета ўжо адчуваўся ў цёплым і празрыстым паветры. Лёталі й зьвінелі пчолкі на кветніку на ўзбочыне прывакзальнага пляцу. Максім расшпіліў каўнер, адхіліў нагрудную палову свайго пінжака й стаў дыхаць вальней. Яны падыйшлі да чарады рамізьнікаў, што стаялі напагатове.

— Возьнік! — паклікаў Вацлаў аднаго зь іх і, забраўшы паклажу ў Максіма, спрытна перадаў яе ўжо падасьпеламу вазьніцы. Прапусьціўшы наперад Максіма са словамі: " Калі ласка, сядайце, дарагі госьцю!", Вацлаў спрытна ўскочыў сам і хутка прагаварыў у бок вазьніцы:

— На Завальную, да "Нашай Нівы".

Стары рамізьнік добра ведаў тое мейсца.Няраз ужо вазіў ён розных прыезджых паноў да тае "Нівы". Ён адразу ўжо ведаў, што гаворка будзе весьціся па-простаму, як цяпер кажуць па-беларуску, а на яго думку па-нашаму, як усе тут людзі гутараць у хатах між сабою. На людзях, ведама, прыходзіцца ламацца, дзе кацапскае слова ўставіш, а дзе й польскае, навучыўся-ж тут за гады рамізьніцтва ад яснавяльможных паноў ды іхных паняў-шчабятухаў. А гэтыя, дарма што паны, так адно толькі па-нашаму й рэжуць, ды яшчэ як, нідзе чужыны ня ўставяць. Аб самых высокіх матэрыях усё толькі па-просту. І гэтак яно прыгожа ў іх выходзіць, што й самому ня ў брыд становіцца наша мова, аднэю ёю от так-бы цэлы

век і пражыў-бы, здаецца. І адкуль толькі такія вучоныя панічы бяруцца? З выгляду кшталтам звычайныя паны, апранутыя па-панску, гавораць аб усім высокім, але вось неяк нязвычна, што адно нашы простыя словы ўжываюць. Значыцца, можна імі выказаць нават і вучоныя рэчы... І ён упаў на момант у задуменнасьць аб сьвеце й людзкіх парадках у ім. Гэта магло-б цягнуцца далей, каб ня ўголас выказанае захапленьне маладзейшага пасажыра, калі міналі Вострую Браму. Старэйшы пасажыр нават папрасіў возьніка затрымацца тут на хвіліну, каб даць магчымасьць госьцю нагледзецца на цудоўную Вострабрамскую Матку, а галоўнае на абраз Пагоні. Вацлаў падобна ўсім людзям, што разьміналіся з Вострай Брамай, укленчыў і перахрысьціўся, тут за ім зрабіў тое-ж і Максім.

— Гэта сьвятое месца не адно толькі каталікам, — прагаварыў Вацлаў, — яно сьвятое ўсім беларусам, сьведамым свайго слаўнага гістарычнага мінулага. Гэтыя ваякі на імклівых канях значаць мястовы Віленскі гэрб, атрыманы Вільняй яшчэ за часоў Вялікага Княства Літоўскага й завецца ён Літоўскай Пагоняй. Ён разам з тым і галоўная эмблема дзяржаўнага гэрбу Вялікага Княства Літоўскага, — нашае, беларускае дзяржавы, дзяржавы са сваім знаным у сьвеце правам, законамі, дзяржавы — абаронцы годнасьці чалавечай ува ўсёй усходняй Эўропе. Дзяржава, у якой цьвіла й красавала беларуская мова й культура беларускага народу. І нам гэтым трэба ганарыцца й паважаць гэтую эмблему.

Максім слухаў, як зачараваны. Вочы ягоныя сьвяціліся зыркімі праменьнямі прабуджанага сьвятла ў ягонай маладой і запальнай душы. Перад ад'ездам ён яшчэ раз укленчыў і, перахрысьціўшыся, голасна прамовіў:

— Сьвятая ты. Даю табе, Пагоня, пажыцьцёвае месца ў маім сэрцы. Жыві!

Рэшту дарогі яны маўчалі. Кажны быў узрушаны й хаваў сваю ўзбуджанасьць пад вэлюмам задумённасьці. Адно возьнік пачаў думаць, што гэта ён вязе ня звычайных людзей, а магчыма самым Богам адмыслова пасланых на гэтую зямлю, каб тварыць дабро для гэтых загнаных і забытых людзей, што ня ведаюць, як іх нават завуць. О, яны добра ведаюць мінулае, як тут жылі людзі й нават сваю дзяржаву мелі, хоць яна й называлася Літоўскім Княствам. Дзіўна аднак, чаму гэтыя беларусы называлі сваю дзяржаву чужым імем. Бо-ж Літоўскі назоў мусіць да ліцьвіноў належыць. Але-ж я памятаю, як мой дзед называў сябе ліцьвіном. Ды й цяпер яшчэ некаторыя ў нашай Ашмяншчыне сябе ліцьвінамі ўважаюць, хоць ні ў касьцёл ходзяць, а ў царкву, дзе айцец Апанас усіх іх называе "рускімі". Тут нейкая блытаніна. У ёй трэба было-б разабрацца. Вось-жа, каб гэта ўдалося дзе-небудзь пагутарыць з гэтымі панамі, можа-б удалося-б і разблытаць той вузел. І ён у думках пачухаў сваю галаву, балазе рукам з лейцамі й пугай было ні да гэтага. Тога вузла, аднак, ня прышлося разблытваць. Неўзабаве прыехалі на Завальную вуліцу, пад шыльду з напісамі: — НАША НІВА й NASA NIWA.

— Ну вось і наша Альма-Матэр! — прагаварыў Вацлаў, калі спыніліся каля першага паверху невялікае камяніцы з бальконам над вітрынай,устаўленай кніжнымі вітражамі. Яны сышлі на ходнік. Вацлаў расплаціўся з возьнікам, падзякаваў яму за фатыгу й тады разам з Максімам падаўся да дзьвярэй запаведнага месца.

2

Як толькі яны пераступілі парог, Максімава ўвага спынілася на пажылым, так гадоў за пяцьдзесят, але рухавым чалавеку з рыжаватымі вусамі ды яшчэ поўнай валасоў, хоць з адзнакамі сівеньня, галавой. Ён адразу наблізіўся да Максіма й адрэкамандаваўся:

— Эпімах-Шыпіла, Браніслаў, з дому Ігната. У Пецярбурзе ад Купалы, майго кватэранта, перад ад'ездам сюды даведаўся, што мае тут быць Максім Багдановіч. Вось я й рад пабачыць Вашэцю ды павіншаваць у яго асобе выдатнага беларускага паэта, новую зорку на літаратурным небасхіле. Віншую!

Ён ухапіў і моцна пацiснуў Максімаву руку. Затым, нібы схамянуўшыся, кінуўся абдымаць яго й цалаваць. Максім быў рады пачуць ад яго гарачыя прывітаньні ад Янкі Купалы, які надоўга асталяваўся ў Пецярбурзе, наведваючы агульнаадукацыйныя курсы Чарняева, каб пасьля пастуціць у ўнівэрсытэт. Творча працуе плённа. Рыхтуе новы зборнік вершаў, нават назоў ужо прыдумаў: "Шляхам жыцьця".

— Магчыма нашаму выдавецтву ўдасца выдаць яго, як час настане. Разгортваем выдавецтва.

Шыпілаў энтузіязм міжвольна перадаваўся Максіму. Ён бачыў у ім сілу й вялізарныя магчымасьці новага беларускага руху. Неўзабаве давялося яму запазнацца з братамі Луцкевічамі. Антон Луцкевіч сам зьявіўся ў прыймовым пакоі "Нашай Нівы" й першым працягнуў сваю моцную руку маладому паэту-госьцю.

— Вось добра, што прыехалі. А я ўжо дамовіўся з дзядзькам Вінцэтам адносна вашага пабыту ў Ракуцёўшчыне. Яны ўжо адвялі для вас пакой і чакаюць вашэцю з дня на дзень. Там вам будзе, як у Бога за пазухай. Месца ціхае й лагоднае. А калі будзе патрэба больш людзей пабачыць, дык побач Краснае, вялікае сяло, да якога й прагулянца часу не забярэ. Ды зрэшты й у самым маёнтку будуць ладныя паненкі, з якімі сумна ня будзе.

Антон быў рухавым і хуткім на дзеі. Ён ня даў Максіму й адумацца, як павёў яго да свайго брата Івана на другі паверх камяніцы. Ён адразу ўвёў яго ў невялікі кабінэт, дзе за сталом, устаўленым рознымі старажытнымі выкапнямі, той сядзеў і пільна разглядаў у руках нешта шэра-бліскучае, як апалены шэляг.

— Вось, Яне, той паэт-лесавік, як яго называе Антон Лявіцкі, — жартоўна адрэкамандаваў Максіма Антон. — Прыехаў пабачыць Беларусь сваімі вачыма ды запазнацца з яе народам і мовай.

— Вельмі рады пазнаёміцца! — падымаючыся з крэсла, прагава-

рыў паважна чалавек, так гадоў трыццаці, з прадаўгаватым голеным тварам і акулярамі на носе. Ён працягнуў яму руку й пацісนуў гэтак, што малады чалавек крыху ўздрыгануўся ад нечаканасьці.

— Іван Луцкевіч — прагаварыў той.

— Максім Адамавіч Багдановіч.

— Сядайце, калі ласка. Вы з Расеі?

— Так, з Яраслаўля на Волзе.

— Прыгожа там у вас?

— Так, вельмі прыгожа, але мілей мне наша Беларусь. Ехаў і ўвесь час ад сьвітаньня ня мог ні наглядзецца на нашы краявіды. Вось дзе першабытная краса й лагода. А як прыгожа гучыць беларуская мова. Ні наслухацца.

— Гэта яшчэ нішто ў параўнаньні з чысьцінёй мовы ў Ракуцёўшчыне, куды вы, я чуў ад брата, кіруецеся. Вось там вы пачуеце сапраўды яшчэ ніякімі ўплывамі не кранутую моўную стыхію. Там тых моўных пэрлаў — нязьлічоная колькасьць. Чэрпайце мудрасьць з народу й узбагачайце нашае прыгожае пісьменства. Гэта, праўда, не мая галіна. Брат Антон у мове лепш, мне здаецца, разьбіраецца. А я пераважна архэялёгіяй займаюся, ды беларускай этнаграфічнай спадчынай цікаўлюся. Вось тут на стале ляжыць цікавы выкапень з часоў Вялікага Княства Літоўскага. На ім выразна відаць адбітак старой дзяржаўнай эмблемы — СТАЎБОЎ, якая ўжывалася яшчэ да ПАГОНІ, што выціснула іх з ужытку яшчэ за часоў Жыгімонта Аўгуста ў сярэдзіне 16-га стагодзьдзя.

Калі кранаўся гісторыі, Іван мог гаварыць бясконца. Ён і цяпер ужо наважыўся працягваць гутарку пра старыну. Адылі Антон пастараўся перапыніць яго.

— Наш госьць толькі што з дарогі й мае патрэбу ў адпачынку, — сказаў ён. — Начаваць будзе ў нас. Трэба-ж яму агледзіць наш музэй, ды з іншымі людзьмі запазнацца.

— У такім разе вас звальняю. Пабачымся пазьней, пан Багдановіч, — прагаварыў Іван і зноў усеўся ў сваё крэсла ды падсунуў да сябе бліжэй выкапень.

А Антон павёў Максіма ў вызначаны яму пакой. Дзень хіліўся ўжо да скону. Даўжэйшымі рабіліся цені ад заходзячага сонца. Госьць пачуваў сябе стомленым, і зь вялікім задаваленьнем прылёг на мяккай рудой канапе ў кутку пакою. І адразу ён адчуў слодыч супакою млявaму целу.

## 3

У мораку скрозь прызачыненыя вочы пабачыў чарнявую жанчыну, якая хуценька паставіла ежу каля яго й зьнікла. Ужо зусім шарэла, калі падняўся з канапы ды ўзяўся за ежу. Пасілкаваўшыся, ён адчуў прыліў сілы й энэргіі. Пайшоў у пакой, дзе пакінуў быў колькі гадзінаў таму Вацлава. І быў зьдзіўлены, што засьпеў яго за сталом перад кіпаю папераў. Ён чытаў і выпраўляў вясковыя допісы

ў "Нашу Ніву".

— Дык вы, пане Вацлаў, яшчэ за працаю. Добрага вечару! А я дык ладне прыкархнуў сабе. Думаў, нікога не засьпею тут. Аж вы тут цягнеце лямку запрэжанага ў працу. Ці не пара канчаць вам на сяньня?

— Дарагі Максіме! Калі я гэтых нарысаў ня выпраўлю, дык і нумар ня выйдзе ў часе. Усім нам прыходзіцца працаваць у рэдакцыі праз сілу.

— А мне пашэньціла запазнацца з братамі Луцкевічамі. Якія яны далікатныя й асьвечаныя людзі!

— Ну, вы яшчэ ня ўсё пра іх ведаеце. Гэта сьвятыя ідэялістыя ў сапраўдным сэньсе слова. Яны маглі-б мець забясьпечанае жыцьцё без клопатаў і турботаў. Абодвы закончылі па два ўнівэрсытэты: Антон — Пецярбургскі й Дэрпцкі, а Іван — Маскоўскі археялёгічны інстытут і Пецярбургскі ўнівэрсытэт. А яны заняліся выданьнем беларускай газэты, якая ім ня прыносіць прыбытку й на палены шэляг. Наадварот, трэба аплачваць рэдакцыйных работнікаў, друкарню, паперу, паштовыя выдаткі й г. д. Гэта грашова сябе не апраўдвае. Спалянізаваная Вільня, дарма, што многія ў ёй гавораць на роднай мове з налётам польшчыны, ставіцца варожа да нашае "хлопскае" газэты. Галоўны яе чытач — вяскоўцы. А гэта ў бальшыні галота, якая яшчэ дарам прачытае, але каб купіць ці выпісаць, дык не, на гэта яна не раскачаецца. Вось і пасылаем на вёску колькі сотняў паасобнікаў дарма, каб усьведамляліся. Праўда, падпісчыкаў прыбывае ўсё болей з кажным годам. Слава "Нашай Нівы" ў вёсцы расьце й шырыцца. Але, каб апраўдаць выдаткі, дык да гэтага яшчэ далёка. Вось-жа пан Іван, як вявёрка ў калясе, з раньня да вечара абмяркоўвае розныя пляны, як дастаць грошай, каб вывесьці газэту з даўгоў. Раней на гэта пайшла спадчына па бацьку. Памагаў аплачваць памешканьне для "Нашай Нівы" афіцыйны рэдактар газэты Аляксандар Уласаў. З усіх віленьчукоў адно Зыгмунт Нагродзкі, зарабляючы з прадажы сельскагаспадарчых машын, у знак пашаны да свайго сябра Францішка Багушэвіча, часам нешта падкідаў "Нашай Ніве". А ўся шматтысячная Вільня абыякавая да беларускага выданьня, як нечага для іх недарэчнага. Іван Луцкевіч бярэцца прадстаўляць розныя гандлёвыя фірмы, як у Расеі, так і за мяжой, за адсоткі выконвае розныя гандлёвыя даручэньні. Перапродаж антыкварных рэчаў часам дае добры куш. Іван усюды шукае старасьвецкіх рэчаў, вырабаў і рукапісаў. У старых дварох, у перакупнікаў і рызьнікаў на кірмашох, на падстрэшшах і ў букіністаў ён набывае іх чуць не дарма, а затым перапрадае іх за добрыя грошы розным панам, сквапным на старажытны гонар, у Пецярбурзе, Львове, Варшаве або Кракаве. Адразу-ж тая ўтаргоўка цалкам ідзе на выдаткі "Нашай Нівы", або на боты Антону, які задарма аддае сябе ганаровай рэдактарскай працы ў газэце. Добрая ўтаргоўка становіцца радасным сьвятам у братоў Луцкевічаў і для ўсяе дружнае сям'і нашаніўцаў. Аднак, гэта яшчэ ня ўсё. Лепшыя рэчы, больш вартас-

ныя з беларускага гледзішча, Іван пакідае ў створаным ім зборы для Беларускага Музэю. Я вам зараз пакажу яго. Ён месьціцца часова тут-жа, пад гэтым самым дахам. Калі ласка, пройдземся па пакоях гэтага збору. І Вацлаў знакам рукі паказаў Максіму кірунак. Яны пайшлі аглядаць скарбы беларускае мінуўшчыны.

4

Калі ішлі, Вацлаў паведаміў, што Антон даручыў Максіма ягонай апецы на ўвесь час ягонага пабыту ў Вільні, гэта значыць, цяпер і пасьля звароту з Ракуцёўшчыны. Жыве ён тут-жа з жонкай і двумя дочкамі. У сябе на кватэры таксама зьбірае старасьвецкія рэчы, навучыўшыся, як гэта рабіць, ад Івана Луцкевіча. Хутка адчыніцца беларуская кнігарня й з дапамогай Івана закладзецца Беларускае Выдавецкае Таварыства.

Максім слухаў і пранікаўся павагай да гэтых ідэялістаў. "Вось гэта дык людзі, — думаў ён употай цяпер. — Пра сябе яны ня дбаюць, а ўсё адно пра нацыянальную справу, каб адрадзіць родны дом, годны нашага народу. І якія далягляды яны адчыняюць!"

Тымчасам Вацлаў націснуў клямку й адчыніліся дзьверы ў вялікі пакой, увесь устаўлены сталамі, на якіх ляжалі старажытныя рэчы. І чаго-ж там толькі ня было. Рэчы ляжалі навалам і ў розных кутках ды віселі прымацаванымі да сьценаў або на паліцах уздоўж. Дзе-ні-дзе віднеліся прымацаваныя да экспанатаў ад рукі напісаныя карткі. На іх абазначаўся назоў рэчы, часы яго паходжаньня ды мейсца, дзе рэч знайшлася, або ў каго набытая. Неабазнанаму тут было цяжка разабрацца. Аднак Вацлаў з лёгкасьцю, як у сябе дома, пачаў тлумачыць госьцю значаньне кажнае рэчы. Зьдзівіў Максіма нявычэрпным веданьнем старасьвеччыны, нашай і сусьветнай гісторыі.

— Вось тут, — гаварыў Вацлаў, падыходзячы да вялізарнага, на колькі сажняў, стала, — рэчы дагістарычнага пэрыяду, гэта выкапні з кургаnоў, раскапаных самым Іванам або Тышкевічам, ці Тэрэбеневым з усяе Беларусі. Гэта рэчы з эпохі палеаліту, нэаліту, бронзавага й зялезнага пэрыядаў. Сярод іх — цікавыя аздобы з серабра, бусы.

— Сфрагістычная калекцыя складаецца з старажытных пячацяў, — вёў гаворку далей Вацлаў каля другога стала. — Яны даюць адказ, які гэрб ужывалі полацкія князі. Тут і пячаць Міндоўга — Пагоня пад каралеўскай каронай. А вось выбіты залатымі гваздочкамі літоўскі каляндар, праўда адно копія, бо арыгінал прапаў. Маецца тут і пячаць Яна Сабескага — кароль сядзіць на пасадзе. Маюцца й пячаці нашых ордэнаў, манастыроў, школаў, войска Вялікага Княства Літоўскага, Галоўнага Трыбуналу В. Кн. Літоўскага, ды розных дзяржаўных установаў.

Пайшлі аглядаць далей. Агледзелі сярэднявечныя персьцяні —

знакі ўлады каштэлянаў. Уразіў вялікі збор манэтаў Вялікага Княства Літоўскага, а таксама мэдаляў. Максіма зацікавіў бронзавы круглы мэдальён з XI-XII стагодзьдзя з эмблемамі, на адным баку — паганскім, на другім — хрысьціянскім.

Калекцыя старадаўніх крыжоў, іконаў і абразоў натхнілі Максіма выказаць пажаданьне, каб спэцыялістыя заняліся досьледамі гісторыі беларускага мастацтва й выказаў колькі цікавых меркаваньняў, што да параўнаньня Рублёўскае й Строганаўскае школ з Ноўгарадзкім мастацтвам ды беларускімі школамі мялярства. Сынтэз бізантыйскіх традыцыяў і заходніх уплываў Максім адзначыў на цэлай групе іконаў. Ад абраза сьв. Анупрэя работы Смуглевіча яго цяжка было адарваць. Падоўгу ён углядаўся ў партрэты гістарычных асобаў беларускага краю. Асобна зацікавілі яго дрэварыты, гравюры ды літаграфіі на медзі, шкадаваў, што ня выстаўлены, з-за недахопу памешканьня, граверскія бляхі ды дрэварытныя табліцы й эстампы сярэднявечных майстроў. Адзначыў вартасны прымітывізм рысунку й калярыстыкі лубкоў, не прайшоў міма некаторых надпісаў па-беларуску Паўла Комара з 18 ст.

Вацлаву не заўсёды прыходзілася тлумачыць, бо Максім часта апераджаў яго й падказваў зусім трапна. Сярод калекцыі народных разьбяроў ён адразу адзначыў хараство фігуры Хрыста работы майстра-самавучкі з ваколіц Мядзельскага возера.

Час бег з нячуванай хуткасьцю. Каля народных інструмантаў — ліры, дуды, цымбалаў, рагоў і жалеек — адно прайшліся. Віленскі фаянс і ўрэччанскае шкло, люстра з масонскае ложы ў Менску, як і дошкі "крашаніны" ўзялі мала ўвагі. Затое запыніліся надоўга каля старадаўняй вопраткі й шляхоцкіх убораў, і ня гэтак дзеля кунтуша, жупана, ботаў, шапкі, як дзеля калекцыі слуцкіх паясоў. Тут Вацлаў выявіў сябе асаблівым знаўцам мастацтва пояса.

— Першапачатковы выраб шаўковых паясоў быў заснаваны Радзілілам у Нясьвіжы, а затым перанесены ў Слуцак. У сярэдзіне 18-га стагодзьдзя князь Міхаіл-Казімір Радзівіл заснаваў у Слуцку персіярню — фабрыку паясоў. Ён прывёз туды пэрсаў і туркаў, якія аднаўлялі пэрсыцкія й турэцкія ўзоры. Але ім у дапамогу прыходзілі беларускія работнікі з прыгонных. Гэтыя хутка авалодалі складанай тэхнікай выпрацоўкі ўсходніх паясоў і паступова надавалі ёй нацыянальны характар. Кіраўнік фабрыкі Ян Мажарскі гэтак разжыўся, што стаў даваць вялікія пазыкі князям Радзівілам, а пасьля арандаваў фабрыку, а пазьней перадаў яе свайму сыну Лявону. Пры Мажарскіх сувязь з усходнімі ўзорамі сталася нагэтулькі далёкай, што слуцкі пояс стаўся адменным і вядомым на ўвесь сьвет. Ён набыў гарманічныя суадносіны частак і выпрацаваў свой самабытны арнамэнт: авал, акружаны лісьцем з адыходзячымі сьцяблámі й кветкамі; краскі на доўгім сьцябле з адгаліненьнямі з зямлі ці вазаў або букеты кветак. І тут цікава, што ў арнамэнт уваходзяць пераважна краскі мясцовай флёры — васількі, незабудкі й іншыя.

Максім слухаў гэтыя ведамкі й у ягонай галаве пачалі падсьведа-

ма бруіцца паэтычныя радкі: пра тых прыгонных майстроў, што сілком узятыя на фабрыку й, навучаныя ткаць адно пэрсіцкі ўзор, забыўшыся, міжвольна пераносяцца на лона роднае прыроды, а з ёю пераносяць на тканае поле пояса "заміж пэрсіцкага узору, цьвяток радзімы васілька".

А Вацлаў далей захапляўся тлумачэньнем узораў вырабаў слуцкай персіярні.

— Вось гэта шаўковы пояс, залотны, аднабаковы. Сярэднік у ім затканы залотнай луской па пунсоваму полі. На ім узор з букетаў пунсовых і блакітных красак з зелянінай на залотным полі. На канцах — два букеты такіх-жа красак галоўкамі да сярэдніка. На канцы ў вуглох ёсьць метка — "me fecit Sluciae" — "мяне зрабіў Слуцак" і "Ioannes Madzarski". А вось на гэтым поясе вы ўбачыце па абодвы бакі арнамэнтальнага матыву, у двух верхніх вуглах, па аднэй невялікай птушцы. А на ніжніх вуглах — невялікія малюнкі жаночай фігуры й жывёліны. А на абодвых канцах тыя-ж меткі Слуцка й Мажарскага.

Зьвярнуў увагу Вацлаў і на тое, што пазьнейшая арнамэнтацыя набывала больш яркія тоны й ўсё больш і больш ужываліся ўзоры мясцовых красак. Але пасьля далучэньня Беларусі да Расеі ў пачатку 19-га стагодзьдзя было забаронена насіць кафтаны (кантушы) й таму неабходнасьць у слуцкіх паясох адпала, вытворчасьць іх спынілася. Слуцкая фабрыка пачала выпускаць узорыстыя й залотныя тканіны для патрэбаў царквы. З іншых пэрсіярняў на Беларусі былі вядомыя, акрамя Нясьвіжскай, яшчэ ў Жмігрудах каля Горліц, у Ружанах у Наваградчыне, на Падлясьсі (пана Агінскага), у Карэлічах, Гародніцы й у Ласосьне пад Горадняй. Але ўсе яны знаходзіліся пад моцным уплывам Слуцкай фабрыкі, і часьцей паясы іх вырабу ішлі пад назовам "слуцкіх паясоў". Нават польскія паясы можна разглядаць, як далейшую распрацоўку слуцкага пояса ў сэньсе выкарыстоўваньня арнамэнтацыі слуцкіх паясоў. Пад значным уплывам слуцкіх паясоў былі вырабы паясоў і ў Маскоўшчыне й на Украіне.

Максіму было прыемна бачыць праявы гонару ў Вацлава з прычыны сусьветнае вядомасьці гэтае адмены народнага мастацтва. Той і не хаваў свайго гонару. Абодвы яны ў роўнай ступені былі радыя, што ёсьць што паказаць сьвету з галіны беларускага народнага генія. І яшчэ доўга, як спыніліся тлумачэньні Вацлава, Максім прыпадаў сваім паглядам да ўзорыстых красак роднага краю, навечна адбітых на тканых палёх Слуцкага поясу. У ягонай душы ўжо сьпяваліся радкі задуманага вершу:

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы.

Аддзел рукапісаў і друкаў найбольш прыцягнуў Максімаву ўвагу рукапіснымі кнігамі, асабліва "Аглашэньнямі" Тодара Судыта з

1476 г., Евангельлем з ілюстрацыямі з Мялішава пад Берасьцем, Слуцкім Памяньніком з 1517 г., Дзеяньнем Апосталаў з 17 ст., Трэбнікам з 1545 г. з дзьвумя прыгожымі застаўкамі, Беларускі рукапіс арабскімі літарамі, Аль Кітаб з пад Вільні, транскрыбаваны на лацініку, прыцягнуў увагу чысьцінёй беларускае мовы 16 ст.

Прабеглі вачыма зборку старадаўніх беларускіх граматаў на пэргамэнце з 15-га й 16-га ст. ст., архіўныя матарыялы Базыліянаў з 16 стагодзьдзя.

— Гэта можа зьявіцца багацейшым матарыялам для вывучэньня нашае гісторыі й для філялёгаў, яно расчыніць шмат цікавых старонак нашае слаўнае мінуўшчыны, — выказаўся ўражаны Максім. Згодны з ім быў і Вацлаў.

А калі дайшлі да краёвых старадрукаў, Максіму было прыемна пазнаваць кнігі, аб якіх ён чытаў сваім часам у Шэйна, Карскага, Раманава й Насовіча. Друкарні Вільні, Еўі, Лоску, Горадні, Супрасьлі, Сямятычаў, Нясьвіжа, Слуцку, Полацку, Магілёва, Кутэйні гучалі для яго, як знаёмыя імёны. Але Біблія д-ра Францішка Скарыны з Прагі, 1517 г. ды першае друкаванае выданьне Літоўскага Статуту з друкарні Мамонічаў у Вільні, 1596 г. зрабіла хіба найбольшае ўражаньне на Максіма. Разам з сабраным неўтаймаваным Іванам Луцкевічам зборам бадай усіх выданьняў беларускіх пісьменьнікаў і камплектамі газэт, яны тварылі падставу для новага беларускага адраджэньня. Так думаў госьць, і гэта адчуваў у ім і радаваўся за яго Вацлаў.

## 5

Ужо было за поўнач, калі вышлі з музэйнага пакою ды накіраваліся проста на кватэру Вацлава. Ён жыў тут-жа пры "Нашай Ніве", займаў два невялікія пакоі з жонкай і двумя дочкамі. Тыя, не дачакаўшыся гаспадара й госьця, даўно пайшлі спаць у другі пакой. А тут у першым на стале стаяў ужо прыастылы самавар ды на талерках ляжала пачостка. Вацлаў запрасіў Максіма да стала, а сам адразу падкінуў вугольчыкаў у самавар. Неўзабаве за гарбатай пачалася зноў бяседа. Вацлаў пачаў гаварыць аб тым, як памыляюцца тыя, што лічаць беларускую зямлю беднай ды няпрыгожай.

— Гэта відавочная няпраўда, — сьцьвярджаў ён. — Вы ўжо сяньньня раніцай праз вакно вагону цешыліся прыгажосьцю нашага краю. Зірніце на нашыя палі, лугі, сенажаці й лясы, вазёры й рэкі, каб пераканацца, што тут крыецца незраўнаная краса. А што да багацьцяў, дык іх і пералічыць цяжка. Тут не адно толькі добрае збожжа, бульба, лён, каноплі ды буракі. З нашага каксагызу робіцца высокаякасны каўчук, а з яго гума. На бураках можа разьвівацца цукровая прамысловасьць, на бульбе й льне — сьпіртовая й тэкстыльная прамысловасьць, на дрэве — дрэвапрацоўчая. Рэкі ня толькі для камунікацыі, але спрыяюць элекрафікацыі й прамысловасьці. Торф, — ня толькі паліва, але з яго можна рабіць бэнзін і вартасныя хі-

мічныя вырабы. На Беларусі ёсьць зялезная руда, руды вугаль, нафта, залежы калійнае солі й іншыя выкапні. Адно ня мае Беларусь свайго собскага гаспадара. А чужынцы вывозяць наша дабро, ня дбаючы пра дабрабыт і дастатак нашага народу. Толькі пры поўнай незалежнасьці мы будзем мець і свайго гаспадара й дастатак у хаце.

Вацлаў скончыў сказ і паглядзеў у вочы Максіма. Ён быў уражаны тым, што Максімавы вочы сваім праніклівым паглядам як-бы перасякалі наскрозь таго, каго ён слухае. І калі Максім быў захоплены сказаным, дык ягоныя вочы як-бы глядзелі ў самую сярэдзіну інтэлекта апанэнта. Яны яшчэ больш ажывіліся, калі закраналіся тэмы культурнага поступу беларускага народу ў мінулым. Максім пры поўнай згодзе Вацлава падкрэсьліваў, што наша пісьменства старэйшае за літаратуры ўсіх нашых суседзяў.

— Гэта-ж падумаць толькі, — казаў ён запальна, — калі ўкраінцы мелі сваю надрукованую Біблію толькі ў 1555 г., палякі — ў 1561 г., літоўцы ў 1660 г., расейцы — ў 1751 г., а мы ўжо мелі яе дзякуючы Францішку Скарыне ў 1517 годзе. У 16 стагодзьдзі мы ўжо мелі напісанымі й надрукаванымі ўсе законы, духоўныя, гістарычныя, філязофскія, навуковыя й мастацкія кнігі.

— Так, — пацьвердзіў Вацлаў, — гэта быў сапраўды наш **залаты век.**

— А маючы такое слаўнае мінулае, — узьнёсла дадаў Максім, — нельга не спадзявацца на сьветлую будучыню нацыянальнага адраджэньня й росквіт нашага нацыянальнага генія ў творчай галіне, якое вызнаюць вякі й народы. Усё гэта падстава нашага новага Залатога Веку, які я бачу скрозь хмары й зацень сучаснасьці. Я пэўны, што ён не за гарамі той новы нячуваны ўздым нашай народнай культуры, што зойме сваё пачэснае месца сярод культураў сьвету.

Вацлаў, які зазнаў на справе, як цяжка працаваць беларускім адраджэнцам на ніве роднае культуры, ня быў гэткім энтузіястым, якім сябе выяўляў малады госьць з далёку. Максім нават глыбей сягаў думкай у прышласьць нашага народу й быў нават больш перакананы ў канечным трыумфе ідэі беларускага адраджэньня, чымся людзі ў асяродку працы для гэтай справы. Максім моцна верыў, што нашае адраджэньне адбудзецца на сялянскай аснове, бо гэта толькі яно ўтрымала нашую мову й сваю народную культуру.

— Па-за сялянствам, — гаварыў ён упэўнена, — усё нам варожае й чужое. Аднак галавою кажнае нацыі ёсьць інтэлігенцыя. Таму нам патрэбна перш-наперш узгадаваць сваю беларускую інтэлігенцыю, выведзеную з сялянскіх масаў. З гэтай сялянскай інтэлігенцыі выйдуць і новыя гэніі мастацкага слова, якія пакажуць свайму народу ня толькі красу роднае мовы, але й напішуць творы агульналюдзкой вартасьці, веданьне якіх стане абавязкавым для кажнага культурнага чалавека на сьвеце. Такая інтэлігенцыя будзе сама гаварыць і сваіх дзяцей навучаць роднай мове, будзе выхоўваць народ любіць і шанаваць роднае слова.

— Так, — працягваў ён з узбуджаным, а таму паружавелым тварам і кроплямі поту на ілбе, — гэніі мастацкага слова ўвекавечаць нашае нацыянальнае імя й уздымуць яго на ўзровень сусьветнай культуры, на роўні з усімі іншымі культурнымі народамі сьвету.

— Наша сучасная беларуская пісьменнасьць, няхай сабе й бедная наразе, мае ў сабе зародкі гэтых думак і выпукляе ўжо гэтыя вартасьці. Край наш лясісты й балацісты. Вось нам і патрэбна стварыць паэзію лесу, паэзію дрыгвы. Калі ўкраінская стыхія — стэп, наша стыхія — лес і балота. Тут ёсьць свая адменная прыгажосьць, адменная рытміка, адменны чар. У гэтым свая асобнасьць і апрычонасьць. Гэта трэба падгледзіць, знайсьці й вынесьці на шырокі сьвет.

Так пераканаўча й упеўнена закончыў Максім Багдановіч сваю, трывалую ледзь не да самай раніцы, бяседу, першае начы ў Вільні. Разыходзіліся яны ўжо на сьвітаньні. Вацлаў не забыўся запрасіць Максіма да сябе на сьнеданьне.

— Так, каля гадзіны дзесятай ці каля паловы адзінаццатай прашу да мяне на сьнеданьне, калі ласка. Потым паходзім па Вільні. Пакажу вам узоры дойліцтва нашых старажытных і новачасных майстроў. Дабранач!

— Шчыра дзякую й дабранач! — сказаў Максім і накіраваўся да свайго пакою. Ён яшчэ доўга ня мог заснуць і ўсё думаў пра ўдзячнасьць лёсу за тое, што ён паслаў яму змогу сустрэць гэтых людзей і пабачыць іх пры працы ды запазнаць іх духовы сьвет. Але змога неўзабаве праглынула ўсё наваколье, і ён патануў у сьне.

## 6

Прачнуўся Максім даволі позна, але да пачатку адзінаццатае гадзіны ён ужо быў у Ластоўскага. Ведамы яму ўжо па ўчарашняй сустрэчы й начной гаворцы з Вацлавам пакой, цяпер выдаўся яму сьвятлейшым і весялейшым. Ён быў цяпер заліты ружаватым летнім сьвятлом і зіхацеў адбіткам сонечных праменьняў. Чарнявая жанчына спаткала яго радасным воклічам, як старога знаёмага.

— Добрае раніцы, Максіме! Калі ласка, сюды, сядайце!

І яна падставіла яму крэсла, запрашаючы за стол. На ім ужо красаваліся кубкі, сподачкі, талеркі з вяндлінай ды нарэзаным белым і чорным хлебам. Пасярод стала стаяў вялікі імбрычак кавы, ад якой ішла пара.

— Вацлаў будзе за хвіліну, — сказала яна перапрашаючым тонам.

— Вац-лааа-ве! Цябе чакаюць! — гукнука яна праз расчыненыя дзьверы больш гулка.

Тым часам з другога пакою выбеглі дзьве дзяўчынкі. Адна гадоў пад шэсьць, у зырка-каляровай сукенцы й жоўтых камашыках, а другая паўтарагадовая, яшчэ ня пэўная ў сваіх кроках, але ўжо шпаркая вяртуха, дарма, што здаецца надоечы стала на ногі ды пачала бегаць. Сьветлаая ружовая сукеначка ёй надта падыходзіла й увесь пульхнаваты тварык гэтак і сьвяціўся сонейкам дзіцячае бесклапот-

насьці. Дзяўчаткі меркавалі пранесьціся хуценька праз пакой і зьнікнуць на пандворку. Але маці іх затрымала, прапануючы запазнацца з панам Максімам. Яна пачаргова падвяла да госьця кажную з іх. Старэйшая, саромячысь і крыху пачырванеўшы, пакланілася перад госьцем і ледзь праз зубы прамовіла:

— Ганка.

— Дай-жа ручаньку пану, — загадала маці. І тая, неахвотна, адно на загад, працягнула сваю невялічкую зграбную ручку.

— А гэта Стася, наша скакуха, — адрэкамандавала маці сваю меньшую дачушку. — Яна гатова скакаць і ўдзень і ўночы, абы ня спаць.

— О, дык ты Станіслава, станеш некалі слаўнай і зробіш увесь род слаўным, — прыказаў жартоўна Максім да малой і пажадаў абедзьвым расьці вялікімі. Тыя выбеглі, глытаючы сьмех, што апанаваў раптам іх ад пэрспэктывы быць Стасі слаўнай.

— Цудоўныя дзеці, — сказаў Максім ім усьлед, але больш для маці. Тая была задаволена й выказала гэта ледзь заўважанай ухмылкай.

— А я адразу пазнаў вас, калі тут пабачыў, — распачаў гаворку з Ластоўскай Максім. — Гэта вы ўчора ў пакоі паставілі мне ежу. Хоць я й ляжаў з заплюшчанымі вачыма, але заўважыў, як вы на момант прамільгнулі няўлоўнай німфай.

— Прабачце, што парушыла ваш сон. Але я ведала, што пан з дарогі не палуднаваў, марудзіць з часам было нельга.

Тут зьявіўся Вацлаў Ластоўскі й прывітаў Максіма з раніцай.

— А я ўжо паправіў допісы ў газэту й здаў іх у друкарню, — пахваліўся ён, каб паказаць, што мае крыху вольнага часу. — Цяпер пасьля сьнеданьня можам і па Вільні пашпацыраваць. Калі ласка, частуйцеся, чым хата багата.

Тым часам гаспадыня напоўніла кубкі кавай і пачалася новая бяседа.

— Гэта добра, што ты, Марыя, ужо з панам Багдановічам зазнаёмілася, — сказаў Вацлаў.

— Ды мы фактычна фармальна яшчэ й не запазналіся. Вось так проста ўступілі ў гаворку, — сказала Ластоўшчыха.

— Ну дык знаёмцеся, — сказаў Вацлаў і ўзяў руку свае жонкі. — Гэта Марыя з дому Іваноўскіх у Шаўлях на Жамойці.

Максім узяў Марыяву руку й далікатна паднёс да сваіх губ.

— Маё вам віншаваньне! Я рады запазнацца з такой ласкавай паняй.

Гаспадыня заружавелася ад узрушэньня й пачала падліваць каву ў Максімаў кубак. А Вацлаў тым часам падсоўваў талерку з вяндлінай бліжэй да госьця.

— Ешце, калі ласка, не саромейцеся. Пачувайце сябе, як у роднай хаце.

Максім пачаў падмацоўвацца, а тым часам думаў, што вось у Вацлава жонка на гадоў адзінаццаць старэйшая за яго, але ў хаце ёсьць

парадак. Відаць ладныя дачушкі спрыяюць тому ладу. Хоць, хто яго ведае? Вацлаў нібыта з ёю даволі бесцырымонны. Тым часам Вацлаў пачаў гаворку пра места Вільню.

— Калі Вялікі Князь Гэдымін у чатырнаццатым стагодзьдзі перанёс сталіцу Вялікага Княства Літоўскага ці Беларускага з Навагрудку ў Вільню, беларусы былі ў бальшыні й на цэлыя тры стагодзьдзі ўперадзе ў сэньсе свайго разьвіцьця, бо былі хрысьціянамі й падзялялі з апошнімі ўсе цывілізацыйныя дасягненьні. Летувісы былі яшчэ паганамі. Таму дзяржаўнай мовай ува ўсёй дзяржаве, як і ў вялікакняскім двары, была мова беларуская. А звалася Літоўскай гэтая дзяржава ў адносінах да ўсяго жыхарства, "Літвы", ці "Літоўцаў", гэта значыць: і аўкштотаў, і жамойцаў, і беларусаў і іншых жыхароў Вялікага Княства Літоўскага. Летувісы яшчэ ня ведалі мястовага дойліцтва, бо жылі сярод пушчаў у вёсках. Вільню будавалі беларускія муляры, сталяры, цесьляры. Яе эканоміку разгортвалі беларускія купцы й рамесьнікі. Беларусы былі пісарамі йураднікамі канцылярыі Вялікага Княства. Шматлікія беларускія мясцовыя князі й баяры прыязджаюць у Вільню, як радныя й сьвіта Вялікага Князя. Першымі цэрквамі ў Вільні былі хрысьціянскія ўсходняга абраду. Віцебская князёўна Марыя, жонка Альгерда, прывезла ў Вільню дворню й сьвіту, як і праваслаўных сьвятароў. Яна засноўвае знаную Пятніцкую царкву на рагу Вялікай вуліцы й Бакшты. Затым будуецца Прачысьценская царква на Зарэччы. Фундуецца царква Сьв. Духа й манастыр слаўным вайскоўцам — князем Астрожскім. Мікалаеўская й Сьвята-Траецкая цэрквы былі пабудаваныя ў вадзнаку перамогі над маскоўцамі ўлетку 1514 г. пад Воршай, аб чым гаворыць умураваная мармуровая пліта з надпісам.

Базыльянскія муры, верхні й дольны замкі, палацы магнатаў, віленская катэдра, Вострая Брама й шмат іншых помнікаў сьведчаць аб беларускай старасьветчыне ў Вільні. У часы Гуманізму й Рэфармацыі ў 16 стагодзьдзі, дзякуючы зносінам з Заходняй Эўропай культура ўсяе Беларусі й Вільні асабліва сягае да сваіх вяршалінаў. Рэестры беларускіх прозьвішчаў у эўрапейскіх унівэрсытэтах гавораць аб пашырэньні ведаў. У Віленскіх мурох засноўвае першую друкарню доктар Францішак Скарына. Затым закладаюць друкарню браты Мамонічы й, між іншым, друкуюць Літоўскі Статут на беларускай мове, пад рэдакцыяй Льва Сапегі. Рэфарматары Радзівілы — Чорны й Руды ў Віленскім замку пры двары Жыгімонта Аўгуста здабываюць прыхільнікаў рэфармацыі. Віленскае Сьвятадухаўскае Брацтва закладае школы, друкарні, прытулкі ды змагаецца з пальшчызнаю, прынесенай у Вільню Езуітамі. І хоць у 17 і 18 стагодзьдзях пальшчызна наклала сваё таўро на Вільню, дык беларушчыну загнала на задворкі й рынкі ўжо расейская акупацыя ў 19 стагодзьдзі, якая памылкова ўважала беларушчыну — праявай польскіх інтрыгаў. У Вільні гіне на маскоўскай шыбеніцы вялікі змагар за волю народу Кастусь Каліноўскі. Адылі цяпер беларускія адраджэнцы зноў распачынаюць тут сваю працу. І недалёкі той час, калі бела-

руская стыхія зноў зальле прыгожыя вулкі нашае старажытнае сталіцы. Я ў гэта моцна веру. Дзеля гэтай мэты мы тут і працуем.

— І я пэўны, што час працуе для беларусаў, і яны дачакаюцца сьветлага дня, як толькі "загляне сонца ў наша ваконца", — узрушана прамовіў Максім, устаючы, каб пайсьці на шпацыр па беларускай Мэццы.

(працяг будзе.)

## СЁЕ - ТОЕ... і яшчэ НЕШТА...

Для некаторых маленькі даляр даражэйшы за вялікае дзякуй.

**Нос падхаліма выхваляўся: я панюхаў... кіраўнічую дулю.**

І маленькі чалавек ня супраць вялікага каханьня.

**Год пралятае няпрыкметна. Доўга цягнецца час да суботы.**

Пісаў віламі па вадзе, але ўсё роўна з памылкамі.

**Адказ павінен быць дакладным, нават калі ён памылковы.**

Здараецца, што ад чужога сьмеху плачуць.

**Калі робіш адно, а думаеш пра другое, атрымліваецца штосьці трэйцяе.**

Папярхнуцца можна нават сьвежым паветрам.

**Чаму гэта — мужчыны нешчасьлівыя ў шлюбе, а жанчыны — у адзіноце?**

Чужым розумам жыў — эканоміў на сваім.

**Дысэртацыю ты абараняеш аднойчы, а яна цябе — усё жыцьцё.**

Для жаданьняў няма мяжы, ёсьць мяжа для магчымасьцяў.

**Словы, як і грошы: іх не хапае тады, калі яны так патрэбныя.**

Іх мядовы месяц быў такі салодкі, што іх пакусалі пчолы.

**Адна галава добра, дзьве лепей. А яшчэ лепш: адна — ды разумная.**

На ўласных памылках вучыцца карысна, на чужых — прыемна.

**І на сухой паперы могуць быць сырыя думкі.**

# ЖАРТАМ І ЎСУР'ЁЗ

Ён прасіў, маніў кабету:
—Будзь маёй — аддам паўсьвету...
А каб шлюб з ёй скасаваць,
Ён гатоў і сьвет аддаць.

— Каб мне, —
Сьвіньня ўздыхнула, — крылы!..
— Ты што зрабіла-б?
— Неба зрыла-б!



— І на што было абяцаць што выканаеш усе яго жаданьні, калі ён добра будзе сябе паводзіць!



— Які ты эгаіст, татка! Ведаеш, што ў мамы хворае сэрца, а прытвараешся, што яна забіла цябе качалкай.

Упершай клясе ліў я сьлёзы,
Што пасадзілі разам з Розай.
А ў дзесятым — сеў зь ёй Якаў.
Я не стрымаўся — ізноў заплакаў.

Калі-б ня ты, — уздыхнула жонка, — мы былі-б ідэальнай парай...

— Спадабаўся табе абед, які я сёньня нарыхтавала?
— Зьдзіўляюся, чаму ты зноў шукаеш прычыну для сваркі?

— Гавораць, што я атрымаў у спадчыну розум майго бацькі.
— У вас, напэўна, шмат братоў і сясьцёр, з якімі вам давялося падзяліцца.

Палюбіць прыроду лёгка, цяжэй дабіцца ўзаемнасьці.

— Учора вечарам зноў нарэшце загаварыў са сваёй жонкай.
— Як гэта? Яна што, езьдзіла куды-небудзь?
— Не, наш тэлевізар сапсаваўся.

— Ты калі-небудзь зрабіў што-небудзь каштоўнае для людзей?
— Зрабіў. Аднойчы я згубіў грошы.

— Як гэта вам, шаноўны, уздумалася ўкрасьці аўтамабіль? — пытае судзьдзя.
— Вельмі проста, — апраўдваецца абвінавачаны. — Ён стаяў каля могілак, дык я падумаў, што яго ўладальнік памёр.

# Вясёлы куточак










— *А ён першы пачаў!*



**— Акуратней не можаш? Гэта ж табе не жывапіс!**

**— Прырода проста цудоўная! Падумайце самі, тысячу гадоў назад не было вядома, што людзі будуць насіць акуляры, а глядзіце, як удала размешчаны вушы.**

●

**— Ну, як, ці добра ты пагуляў учора на вяселлі?**
**— Не ведаю, мне яшчэ не расказалі.**



— *Нарэшце ён пачаў працаваць галавой.*



У Белавежскай пушчы.

*Editor and Publisher: Nikolas Prusky*
*1086 Forest Hills Ave., SE. Grand Rapids, Mich. 49506 USA.*